ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 7 (2409) 16 лютага 1995 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 100 рублёў.

ВАЙНА: ДРУГІ БОК МЕДАЛЯ

# ПАМІЖ ЖЫЦЦЁМ І СМЕРЦЮ

## 1. АПЛАЧАНА КРЫВЁЮ

Кожная буйная гістарычная падзея з часам абрастае міфамі. Часцей за ўсё яны стваراюцца свядома, каб дагадзіць палітычным амбіцыям урадаў і кіруючых партый. У савецкі час гэтых міфаў было створана занадта многа.

Вайна, якая закончылася амаль пяцьдзесят гадоў таму назад, не з'яўляецца выключэннем. Але і тут, як ва ўсякім міфе, праўда змешваецца з маной, якую не заўсёды проста выкрыць. Тым больш, што за доўгія гады іх існавання многія міфы глыбока ўвайшлі ў народную свядомасць і здаюцца ісцінай у апошняй інстанцыі.

Адным з такіх пераканаянняў з'яўляецца і легенда пра надзвычайнае адзінства савецкага народа перад вайной, што і паслужыла залогам перамогі. Давайце зірнём на факты таго часу: гвалтоўная і жорсткая калектывізацыя, што прывяла не толькі да разарэння вёскі, але і фізічнага знішчэння сотняў тысяч сялян, да ссылкі іх у аддаленыя раёны Сібіры і Поўначы, потым страшэнны голад, які загубіў мільёны жыццяў (не кажу ўжо аб ліквідацыі нэпа, што закранула немалую частку насельніцтва краіны), рэпрэсіі сярэдзіны і канца трыццатых гадоў, якім падвергліся не толькі партыйныя вярхі, але і ўсе слаі грамадства... Думаецца, што Сталін зрабіў усё магчымае, каб раз'яднаць народ і настроіць яго супраць савецкай улады.

Аднак яднанне адбылося з пачаткам вайны, калі вялікія поспехі немцаў і няўдачы і паражэнні нашай арміі паказалі народу, што пытанне стаіць аб самім існаванні дзяржавы, што з перамогай фашызму рухне не толькі сталінскі рэжым, але і сама краіна, тым больш, што ўжо з першых дзён вайны стала бачна: ніякіх ілюзій у адносінах германскага фашызму не можа быць. Паводзіны нямецкіх войскаў на акупіраванай тэрыторыі, адносіны іх да насельніцтва не пакідалі ніякага выбару: трэба было ваяваць з ворагам і абавязкова перамагчы яго.

І той жа прыгонны калгасны мужык, той жа хлапчукінтэлігент, які страціў бацькоў у 37-м, сталі змагацца і маўкліва паміраць на палях баёў — не за Сталіна, зразумела, і не за савецкую ўладу, якой ад роду было ўсяго дваццаць чатыры гады, а за Айчыну, за сябе, сваю зямлю, нарэшце, і таму — выйгралі вайну, нягледзячы на бяздарнасць кіраўніцтва, якое прывяло да шматмільённых ахвяр, і перамаглі насуперак, а не дзякуючы бесчалавечнай сістэме прымусу і тэрору. Трэба адзначыць, што на гэты час прыціхлі і нашы "доблестные органы", якія аднавілі сваю дзейнасць толькі ў 44-м, калі стала ўжо ясна, што мы пераможам. На вайне народ набыў сапраўдныя грамадзянскія пачуцці, ён глыбока зразумеў, што яго лёс знаходзіцца ва ўласных руках. Перамог спрадвечны народны патрыятызм, перамагла любоў да сваёй Айчыны.

...Вось дзе вытокі нашай перамогі.

"Мы за ценой не постоим" — гэта не толькі словы з песні Б.Акуджавы, гэта метад вядзення вайны. І яшчэ існавала крылатая фраза: "Перамоджаў не судзяць". І, сапраўды, за дарэмныя, неапраўданыя страты ў ваенных аперацыях не асудзілі нікога: народу ў нас было многа, нашто разменьвацца на дробязі — сотняй тысяч больш, сотняй тысяч менш... Адсюль і тыя непапраўныя, як цяпер ужо ясна, страты.

Колькі іх было?

Дакладна адказаць на гэтае пытанне не дазваляе адсутнасць пэўнай інфармацыі. Аднак нягледзячы на статыстычныя цяжкасці, папярэднія ацэнкі ахвяр сталі з'яўляцца ўжо ў канцы вайны; трэба было падвесці вынік трагедыі, падрыхтавацца да Нюрнберга, убачыць будучыню Еўропы. У Савецкім Саюзе першай была лічба, названая Сталіным у гутарцы з карэспандэнтам "Праўды" ў 1946 годзе. Відаць, грунтуючыся на папярэдніх выніках дзейнасці Надзвычайнай Дзяржаўнай камісіі аб злачынствах нямецка-фашысцкіх захопнікаў, ён сцвярджаў, што "ў выніку нямецкага ўварвання Савецкі Саюз страціў у баях з немцамі, а таксама з прычыны нямецкай акупацыі і вывазу савецкіх людзей на нямецкую катаргу каля 7 мільёнаў чалавек".

Але да гэтай лічбы ў свеце паставіліся з недаверам. Некаторыя лічылі, што Сталін гаварыў толькі аб ахвярах сярод мірнага насельніцтва, іншыя — што толькі аб ваенных. Да апошніх належаў амерыканскі сацыёлаг Н.Цімашаў, які ў 1948 годзе сцвярджаў, што ўвогуле наша краіна страціла ў ходзе вайны 25,3 мільёна чалавек загінуўшымі; 1,3 мільёна чалавек эмігравалі, а дэфіцыт нараджальнасці склаў 10,9 мільёна. Гэта значыць, усяго прамыя і ўскосныя страты насельніцтва краіны склалі 37,5 мільёна чалавек. Аднак да канца 50-х гадоў адной з самых распаўсюджаных лічбаў колькасці загінуўшых у СССР была 20 мільёнаў. Такой велічынёй М.Хрушчоў у 1961 годзе ў пісьме да прэм'ерміністра Швецыі Т.Эрландэра вызначыў нашы страты.

(Працяг на 4-й стар.).



**7—8 лютага адбыўся афіцыйны візіт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі ў Літву. Вынікам яго стала падпісанне важных дакументаў — Дагавора аб добрасуседстве і супрацоўніцтве, які і вызначыць далейшую перспектыву ўзаемасупрацоўніцтва суседніх дзяржаў, і Дагавора аб устанаўленні дзяржаўнай граніцы паміж Літвой і Беларуссю.**

**Два пагадненні падпісалі сакратар МЗС Літвы Рымантас Шыдлаўскас і намеснік міністра замежных спраў Беларусі Станіслаў Агурцоў. Першым пагадненнем Літва прызнала ўласнасцю Рэспублікі Беларусь санаторый "Беларусь" у Друскінінкаі і дазволіла беларускаму боку зняць у арэнду адпаведны ўчастак зямлі. Згодна з другім пагадненнем, Беларусь перадае Літве так званы "аб'ект 500", які рэгулюе ўзровень вады ў возеры Друкшай, і бакі дагаварыліся аб выкарыстанні электрастанцыі "Дружба народаў" ля Друкшайскага возера.**

**На праведзенай у першы дзень сумеснай прэс-канферэнцыі прэзідэнты дзвюх рэспублік заявілі, што з падпісаннем міждзяржаўных пагадненняў зроблены вельмі важны крок у развіцці адносін паміж краінамі ў розных галінах эканамічнага, культурнага і сацыяльнага жыцця. Паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, Дагавор аб устанаўленні дзяржаўнай граніцы можа служыць прыкладам для іншых краін, як трэба вырашаць спрэчныя праблемы.**

ЦІ БУДЗЕ Ў БЕЛАРУСІ АЛЬТЭРНАТЫЎНАЯ СЛУЖБА?

# ВЫБАР: КАЗАРМА АБО ТУРЭМНАЯ КАМЕРА

Даўно адышлі ў нябыт часы, калі прадпрыемствы з аркестрам і ўрачыстымі прамовамі накіроўвалі ў армію юнакоў, якія дасягнулі прызыўнога ўзросту. Ды і самі маладыя людзі зараз без усялякага энтузіязму ідуць служыць Радзіме, разглядаючы гэту справу як надакучлівы, а не пачэсны абавязак кожнага грамадзяніна. І нічога дзіўнага, бо праслаўтая "дзедаўшчына" і страх загінуць у адной са шматлікіх "гарачых кропак" невядома за чые інтарэсы пазбавілі воінскую службу ўсякай рамантыкі і арэолу патрыятызму. Таму два разы ў год, вясной і восенню, пэўная частка грамадства пачынае гульню "паліцэйскія і злодзеі" ў агульнанацыянальным маштабе. Адны імкнуцца схавацца, каб любой цаной пазбегнуць службы ў арміі, другія — знайсці іх і даставіць на прызыўны пункт. Удаецца ці не — мяркуйце самі, бо падчас апошняга прызыву ў ваенкаматы не з'явілася 1 549 чалавек, і хто ведае, дзе яны хаваюцца зараз.

Аднак у іншых краінах, дзе моладзь таксама часта не імкнецца ўзяць у рукі зброю, аказваецца, даўно знойдзена выйсце ў выглядзе альтэрнатыўнай вайсковай службы. У аснову прынятага ў многіх краінах закона аб альтэрнатыўнай службе легла канстытуцыя, дзе кожнаму грамадзяніну гарантуецца свабода выбару і свабода сумлення. Дарэчы, перад тым як пераймаць чужы вопыт, нядрэнна было б успомніць, што яшчэ Кацярына II вызваліла ад ваеннай службы рэлігійнае брацтва менанітаў, а Ленін хутка пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі выдаў дэкрэт аб вызваленні ад арміі грамадзян па рэлігійных перакананнях. Аднак сёння ў нас пра былы вопыт забыліся і з непаслухмянымі прызыўнікамі змагаюцца пераважна сілавымі метадамі. І тады гарантаваная Канстытуцыяй свабода выбару абмяжоўваецца альтэрнатывай паміж казармай і турэмнай камерай — каму што больш падабаецца. Між тым, у свеце ўжо даўным-даўно зразумелі, што больш разумна і выгадна для самой дзяржавы накіраваць энергію маладых, дужых хлопцаў на карысць грамадства.

Менавіта так і з'явіліся ў нямецкіх бальніцах, дамах для састарэлых, дзіцячых дамах, на будоўлях тыя, чые пацыфісцкія і рэлігійныя перакананні падаліся строгай прызыўной камісіі заслугоўваючымі ўвагі і павагі. Ёсць і яшчэ адна цікавая магчымасць, якую скарыстоўваюць некаторыя нямецкія прызыўнікі: праходзіць альтэрнатыўную службу за мяжой. Такім шляхам і апынуўся ў Мінску Себасцьян. Яшчэ задоўга да таго, як ісці ў войска, Себасцьян ужо ведаў, што служыць ён не хоча. Малады чалавек не бачыў сэнсу ў тым, каб цэлы год вучыцца страляць, забіваць, выконваць каманды, маршыраваць, чысціць зброю — увогуле, таму, што наўрад ці прыдасца яму ў далейшым жыцці. Альтэрнатыўная ж служба, на яго погляд, дае значна больш магчымасцей набыць жыццёвы вопыт, убачыць новае.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

*БЕЛАРУСЬ--ТАДЖЫКІСТАН*

## ГАНДЛЯВАЦЬ І СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ



**З рабочым візітам Рэспубліку Беларусь наведаў Старшыня Савета Міністраў Таджыкістана Джамшэд Карымаў. У Мінску 4 лютага адбыліся перагаворы паміж урадавымі дэлегацыямі Беларусі і Таджыкістана. У якасці падагульняючага дакумента Пратакол аб гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве дзвюх краін змацавалі подпісамі прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір і кіраўнік урада Таджыкістана Джамшэд Карымаў. Бакі абавязаліся забяспечыць узаемную пастаўку важнейшых відаў прадукцыі прамысловасці і сельскай гаспадаркі, ствараць спрыяльныя ўмовы суб'ектам гаспадарання ўсіх формаў уласнасці і развіваць кааперацыйныя сувязі. З Таджыкістана будзе пастаўлена прадукцыі на суму больш чым 20 мільёнаў амерыканскіх долараў у год. Таваравытворцы і сяляне сярэднеазіяцкай рэспублікі абавязваюцца адгружаць прадпрыемствам-спажыўцам Беларусі бавоўну, алюміній і іншую прадукцыю ў абмен на пракат чорных металаў, трактары, станкі, электратэхнічныя вырабы і тушонку.**

**НА ЗДЫМКУ: пасля падпісання дакументаў.**

*ШТО СКАЖА НАРОД?*

## НАМЕР ПРЭЗІДЭНТА

**Аляксандр Лукашэнка заявіў аб сваім намеры ініцыіраваць усенародны рэферэндум па пытаннях дзяржаўнай сімволікі, дзяржаўнай мовы і саюза з Расіяй. "Людзі мяне закідалі пісьмамі з пытаннямі: "Хіба гэтую краіну мы абаранялі пад Сталінградам! Хіба гэта наш гімн і флаг! Чаму нас прымушаюць гаварыць на мове, на якой мы гаварыць не хочам!" -- сказаў Прэзідэнт на сустрэчы з прадстаўнікамі рэспубліканскіх ветэранскіх арганізацый 2 лютага. -- Я думаю, што дэпутаты Вярхоўнага Савета ўсё-такі не могуць вырашаць такія пытанні за ўвесь народ. Народ сам павінен вызначыцца, на якой мове яму гаварыць і які павінен быць герб Беларусі -- мірны з каласамі ці конь з шаблямі".**

## АДКАЗ АПАЗІЦЫІ

**У адказ на такі намер Прэзідэнта А. Лукашэнкі апазіцыя БНФ абяцае адначасова "з прэзідэнцкім плебісцытам" арганізаваць рэферэндум "аб даверы Прэзідэнту".**

**Як мяркуе апазіцыя, "ставіць пад сумненне нацыянальны герб, флаг ва ўгоду сілам, якія імкнуцца вярнуць камуністычную сімволіку, з'яўляецца сведчаннем таго, што для А. Лукашэнкі дзяржаўнасць і гісторыя нічога не значаць".**

*МУДРЫ ЗАКЛІК*

## НЕ ТРЭБА СВАРКІ

**"Няхай беларускае слова будзе родным у кожнай сям'і, у кожным калектыве". З такім заклікам да землякоў звярнуліся пастаянныя камісіі Віцебскага абласнога Савета дэпутатаў па развіццю навукі, адукацыі і культуры і па справах моладзі ў сувязі з пяцігоддзем прыняцця Закона аб мовах у Беларусі.**

**Народныя выбраннікі заклікалі ўсіх грамадзян прыдзвінскага краю "не ствараць напружанасці вакол моўнага пытання", а па-сапраўднаму садзейнічаць нацыянальна-моўнаму адраджэнню, паслядоўна выконваць закон, проціластаўляць разнастайным выдумкам аб'ектыўную інфармацыю і факты. "Мы расцэньваем заявы некаторых палітычных сіл аб антырускай істэрыі ў Беларусі, аб наступленні ў нас нацыяналізму не толькі як палітыканства, але і як палітычную правакацыю", -- падкрэслена ў звароце.**

*У АБАРОНУ ДЗЯРЖАЎНАЙ СІМВОЛІКІ*

## ВУЧОНЫЯ — АДНОЙ ДУМКІ

**Члены вучонага савета Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі яшчэ 12 верасня 1991 года прынялі Пастанову, у якой абгрунтавана былі прапанаваны дзяржаўныя сімвалы Рэспублікі Беларусь -- герб з выявай "Пагоні" і бел-чырвона-белы сцяг.**

**Занепакоеныя тым, што цяпер пэўныя антынацыянальныя сілы заклікаюць да перагляду дзяржаўнай сімволікі, члены вучонага савета ў лісце на імя Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.Грыба, старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Н.Гілевіча і рэдактара "Народнай газеты" І.Сярэдзіча заяўляюць: "Вучоныя інстытута і сёння не маюць падстаў мяняць або ўдакладняць сваю думку".**

**Пастанова надрукавана ў "Народнай газеце".**

*ЖАБРАЦКАЯ НОРМА*

## НЕ ЎСЁ ВЁСЦЫ МАСЛЕНІЦА

**100 грамаў -- такая месячная норма водпуску масла на аднаго чалавека на люты для жыхароў сельскай мясцовасці Рагачоўскага раёна.**

**Адзначым, што гараджане ў гэтых адносінах аказаліся ў некаторым выйгрышы, паколькі ў адрозненне ад сяльчан на кожнага з іх прыпадае ў месяц па 300 грамаў дэфіцытнага прадукту. Зноў, як бывала не раз і раней, сяльчане -- вытворцы прадукцыі апынуліся ў горшым становішчы ў параўнанні з гараджанамі-спажыўцамі.**

*"Аб дзейнасці Прэзідэнта і ўрада любой краіны мяркуюць па ўзроўню жыцця народа. Калі зыходзіць з гэтых пазіцый, то пакуль цяжка ацаніць станоўча амаль паўгадавую работу Прэзідэнта і новага ўрада. Здавалася б, ёсць канкрэтная праграма выхаду з крызісу. І для яе рэалізацыі маецца неабмежаваная ўлада, энергічная маладая каманда, падтрымка народных мас. Але, на мой погляд, ёсць моманты, што перашкаджаюць пакуль нармальнай рабоце: камандзе не хапае вопыту, прафесіяналізму, урад абмежаваны ў самастойнасці па правядзенню эканамічных рэформ. Ды і часу прайшло мала, каб нешта змяніць у гэтым хаосе да лепшага. Мы, ігнаруючы вопыт заходніх дзяржаў, у прыватнасці, Прыбалтыкі, у многім добраахвотна ставім сябе ў залежнасць ад Расіі і яе непрадказальнага кіраўніцтва".*

*(З інтэрв'ю Аляксандра ГЕРАСІМЕНКІ, старшыні Мінскага гарадскога Савета, карэспандэнту "Народнай газеты").*

*У РОДНЫМ КРАІ -- ЛЕПЕЙ*



**Усё больш людзей, што некалі пакінулі родную Беларусь і пасяліліся ў краінах Балтыі, вяртаецца назад. Так здарылася і ў жыцці ўрача Надзеі Кавалёвай (на здымку). У свой час яна паехала вучыцца ў Рыжскі медыцынскі інстытут. Пасля заканчэння яго загадвала адной з лепшых у Латвіі Вілянскай паліклінікай Рэзекненскага раёна.**

**Цяпер урач высокай кваліфікацыі Надзея Кавалёва працуе ў сельскай амбулаторыі вёскі Лука роднага Кобрынскага раёна. У дзень у яе бывае мноства пацыентаў з навакольных вёсак. Новы ўрач ім прыйшлася па душы. Але ў самой Надзеі Канстанцінаўны так і засталіся ў сэрцы горыч і крыўда. А паехала яна з Латвіі не па добрай волі, яе, па сутнасці, дэпарціравалі. Адно суцяшэнне -- цёпла прынялі ў родным краі.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

НАЦЫЯНАЛЬНЫ клуб "Усход-Захад" ствараецца ў сталіцы. У яго ўвойдзе фінансавая і палітычная эліта Беларусі. Уступны ўзнос -- не меней 20 тысяч долараў. Як заявіў старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч, гэта грамадскае аб'яднанне ўтвараецца, каб уплываць на ўладу і грамадскую думку.

РАБОЧЫЯ Мінскага завода аўтаматычных ліній 6 лютага не прыступалі да працы. Прычына -- незадаволенасць зарплатай, якую яны атрымалі за студзень месяц. На сходзе працоўнага калектыву былі прыняты канкрэтныя патрабаванні да адміністрацыі аб паляпшэнні сацыяльнага становішча.

2 ЛЮТАГА на модным праспекце Машэрава ў Мінску на народнага артыста СССР Расціслава Янкоўскага напалі трое бандытаў і збілі яго. Янкоўскі вяртаўся дадому пасля прэм'еры спектакля ў Рускім драматычным тэатры, дзе ён іграў галоўную ролю. Ніхто з міліцыі не прыйшоў на дапамогу: яе проста тут не было.

У ПАСЁЛАК Райцы Талачынскага раёна ў дом Ганны Бабіч прыйшла горкая вестка: у Чэчні загінуў яе 26-гадовы сын. Як і многія беларускія хлопцы, ён служыў у расійскай арміі.

НАРУЧНЫЯ электронныя гадзіннікі, якія будуць выконваць мелодыі ваенных гадоў, вырабляе пінскі завод "Камертон". Гэта буйны заказ расійскага і ўкраінскага ўрадаў. Такімі гадзіннікамі будуць узнагароджаны ветэраны да 50-годдзя Перамогі.

**31-га студзеня г.г. адбылося пасяджэнне "круглага стала", праведзенага Таварыствам беларускай мовы імя Ф. Скарыны з удзелам камісій Вярхоўнага Савета, прадстаўнікоў шэрагу міністэрстваў і ведамстваў, грамадскіх арганізацый з нагоды пятых угодкаў з дня прыняцця "Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь". Удзельнікі "круглага стала" прынялі Заяву, якую друкуем ніжэй.**

# ЗАЯВА

## ЎДЗЕЛЬНІКАЎ "КРУГЛАГА СТАЛА"

### З НАГОДЫ 5-Й ГАДАВІНЫ ПРЫНЯЦЦЯ ЗАКОНА АБ МОВАХ У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

У выніку аналізу стану ажыццяўлення палажэнняў арт. 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і Закона аб мовах, праведзенага за "круглым сталом" Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны і Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, пры ўдзеле адказных работнікаў шэрагу органаў дзяржаўнага кіравання, актывістаў грамадска-культурных арганізацый Беларусі, канстатуецца наступнае:

-- Нягледзячы на тое, што Закон уступіў у сілу яшчэ 1 верасня 1990 года, многія палажэнні згаданага Закона не выкананы ў маштабе краіны ў выніку яго ігнаравання многімі адказнымі работнікамі дзяржаўных і недзяржаўных структур. Адзначанае датычыцца арт. 11, 27, 28, 29, 31, 32, 35, якія павінны былі цалкам быць выкананы больш як год назад, а таксама арт. 4, 7, 12 -- 8, 10, 13, 14, 23, на ажыццяўленне якіх адведзены тэрмін ад 3 да 5 гадоў. Многія дзяржаўныя служачыя нават не азнаёмлены са зместам Закона аб мовах і працягваюць спасылацца на нібыта ўстаноўлены для ажыццяўлення ўсіх яго палажэнняў тэрмін 10 гадоў.

Асабліва ўзмацніліся тэндэнцыі да прававога нігілізму ў галіне моўна-культурнага заканадаўства пасля публічных выступленняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з крытыкай палажэнняў Закона аб мовах і антыканстытуцыйнымі заклікамі вярнуцца да так званага "двухмоўя" -- за гэтым, як вядома, заўсёды было прыхавана імкненне канчаткова вывесці беларускую мову з грамадска-дзяржаўнага ўжытку ў краіне. Далёка не ў поўнай ступені выконваюць свае абавязкі па нагляду за ажыццяўленнем заканадаўства ў дачыненні да Закона аб мовах і органы Пракуратуры Рэспублікі.

У шэрагу сродкаў масавай інфармацыі, у тым ліку і дзяржаўных, у недапушчальных для цывілізаванага грамадства формах аспрэчваецца права народа Беларусі на прыярытэтнае становішча беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай у краіне, а разам і яго права на сваю ўласную нацыянальную дзяржаўную сімволіку і саму дзяржаўнасць.

Нярэдка пры садзейнічанні тых высокіх службовых асоб краіны, якія непрыхільна ставяцца да беларускай мовы і канстытуцыйнага ладу незалежнай Беларусі, а таксама пры падтрымцы замежных арганізацый, якія адмаўляюць народу Беларусі ў праве на дзяржаўнасць і на сваю мову ў рэспубліцы, працягваюць адкрыта дзейнічаць разнастайныя экстрэмісцка-антыбеларускія грамадскія ўтварэнні.

У выніку вышэйадзначанага грамадзянам краіны, незалежнай Рэспубліцы Беларусь наносяцца вялікія сацыяльна-палітычныя і маральныя страты, штучна стрымліваецца развіццё нацыянальнай культуры, пашырэнне ў грамадска-дзяржаўным ужытку беларускай мовы.

У гэтай сувязі вышэйшым органам улады і кіравання Рэспублікі Беларусь, у шэрагу іншых неадкладных захадаў, накіраваных на выкананне канкрэтных палажэнняў Закона аб мовах, прапануецца ажыццявіць наступныя меры:

1. Вызначыць у органах дзяржаўнай улады і кіравання службовых асоб, адказных за ўсебаковае выкананне палажэнняў Закона аб мовах, іншых нарматыўных актаў, прынятых у краіне з мэтай пашырэння ў грамадска-дзяржаўным ужытку беларускай мовы і моваў нацыянальных супольнасцей Беларусі і надзяліць іх неабходнымі паўнамоцтвамі дзеля выканання адпаведных службовых абавязкаў.

2. Звярнуцца да Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь з прапановай правесці калегію, на якой дэталёва абмеркаваць стан выканання Закона аб мовах і прыняць неабходныя рашэнні, якія здольны прадухіліць прававы нігілізм службовых асоб краіны розных рангаў у дачыненні да моўна-культурнага заканадаўства і якія забяспечвалі б яго тэрміновае і поўнае ажыццяўленне.

3. Увесці ў практыку дзейнасці органаў улады і кіравання краіны на час, адведзены на ажыццяўленне Закона аб мовах, справаздачнасць у межах кампетэнцыі адносна стану яго выканання перад вышэйстаячымі дзяржаўнымі структурамі, у тым ліку і адпаведнымі камісіямі выбарных органаў прадстаўнічай улады і самакіравання.

4. Звярнуцца да праваахоўных органаў краіны з просьбай прыняць у адпаведнасці з дзейным заканадаўствам вычарпальныя меры па недапушчэнню антыканстытуцыйнай, антызаконнай дзейнасці тых грамадскіх структур, якія, прыкрываючыся лжывымі лозунгамі забеспячэння правоў той ці іншай нацыянальнай меншасці, сталі на шлях знішчэння беларускай дзяржаўнасці, яе атрыбутаў і абмежавання правоў беларускай мовы.

5. Звярнуцца да дзяржаўных і недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі краіны з просьбай гранічна далікатна асвятляць пытанні, звязаныя з дачыненнямі нацыянальных супольнасцей Беларусі, узаемадзеяннем іх моў і культур, а таксама з павагай і з пачуццём належнага грамадзянскага абавязку перад Бацькаўшчынай адлюстроўваць працэсы нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі, пашырэння ў грамадска-дзяржаўным ужытку беларускай мовы.

# ВЫБАР: КАЗАРМА АБО ТУРЭМНАЯ КАМЕРА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

"Калі потым нават і не звяжуць сваё жыццё з медыцынай, -- гаворыць Себасцьян, -- то, папрацаваўшы ў бальніцы, дзе бачаць хворых, старых, нямоглых, маладыя людзі знаёмяцца з тымі праблемамі, якія, як правіла, у гэтым узросце абыходзяць іх. Гэта дапамагае сфарміраваць характар і больш уважліва ставіцца да тых, каму патрэбна дапамога".

Так лічыць не адзін Себасцьян, бо зараз да 50 працэнтаў усіх нямецкіх прызыўнікоў выбіраюць альтэрнатыўную службу, а што тычыцца яго сяброў, дык амаль усе яны пайшлі менавіта гэтым шляхам, хаця такая служба на тры месяцы даўжэйшая за звычайную і работу, якую даводзіцца выконваць, лёгкай не назавеш. І тым не менш, адна з умоў альтэрнатыўнай службы -- яна не павінна быць пакараннем для таго, хто яе абраў. Зараз амаль у кожнай буйной нямецкай клініцы ці доме для састарэлых існуюць месцы спецыяльна для тых, хто прыйдзе сюды служыць. Дзяржава ўжо даўно зразумела, што мець цэлую армію бясплатных медбратоў, санітараў, будаўнікоў ёй выгадна, і нават заахвочвае сваіх маладых грамадзян. Дзіўна для нас і тое, што хлопцам давяраюць, працу іх амаль не кантралююць. Яшчэ больш дзіўна, што, нягледзячы на гэта, нараканняў на нядобрасумленнасць вельмі мала.

Але ж вернемся да Себасцьяна. Як трапіў ён у Мінск? Аказваецца, яшчэ да таго, як трэба было ісці ў войска, ён вырашыў паклапаціцца аб сваёй будучыні і звярнуўся ў пратэстанцкую арганізацыю "Акцыя ў імя знака выкуплення", якая накіроўвае маладых людзей на працу ў краіны, што ў свой час пацярпелі ад фашысцкай Германіі. Такіх краін нямала, і таму выбіраць Себасцьяну было з чаго. Яму захацелася на Усход, і праз некаторы час ён атрымаў працу выхавальніка ў дзіцячым аддзяленні анкалагічнага інстытута ў Бараўлянах. Уяўляю сабе здзіўленне бацькоў хворых дзяцей і персаналу, калі яны даведаліся, што гэты зусім яшчэ малады добразычлівы нямецкі хлопец з белымі валасамі да пояса -- выхавальнік. Чамусьці думаю, што не здзівіліся толькі самі дзеці, па-першае, таму, што тых, хто тут ляжыць, увогуле цяжка нечым здзівіць, а па-другое, дзеці лепш за дарослых адчуваюць, з дабром ці са злом ідзе да іх чалавек. Яны Себасцьяна прынялі і палюбілі адразу, ён іх -- таксама. На маё пытанне, ці цяжка працаваць там, дзе дзеці так часта гінуць ад страшнай хваробы, Себасцьян адказаў, што там, калі гуляеш з імі, аб гэтым не думаеш. Калі Себасцьян прыехаў у Мінск і толькі-толькі пачаў працаваць, за адзін месяц у аддзяленні памерла 11 дзяцей...

Себасцьян -- не першы немец у Бараўлянах. Да яго па лініі той жа арганізацыі "Акцыя ў імя знака выкуплення" туды прыязджала працаваць нямецкая дзяўчына. Адчуванне маральнага абавязку перад тымі, хто некалі пацярпеў ад фашысцкай Германіі, прыводзіць маладых немцаў сёння ў самыя розныя краіны. "Гэта была не проста вайна, -- гаворыць Себасцьян. -- Гітлер распрацаваў сапраўдную філасофію, накіраваную на знішчэнне іншых, тых, хто нечым адрозніваецца ад цябе". Я вельмі здзівілася, калі пачула, што як сёння ў нас многія ўспамінаюць Сталіна і сумуюць па яго "моцнай руцэ", так і ў Германіі ёсць тыя, хто ўпэўнены, што толькі Гітлер зараз змог бы давесці жыццё да ладу.

Доўга размаўлялі мы і аб тым, што будзе, калі ў рэшце рэшт і ў нас прымуць закон аб альтэрнатыўнай службе. Ці стане гэта яшчэ адной разнавіднасцю сумна вядомага будбата? І ці будуць такіх "байцоў" разглядаць як людзей з пачуццём уласнай годнасці і свабодай выбару, а не як танных падсобных некваліфікаваных рабочых, з якіх падчас іх працы-службы трэба выціснуць як мага больш? І ці захочуць зараз нашы маладыя хлопцы замест службы ў арміі ісці да састарэлых, хворых працаваць медбратамі і санітарамі у бальніцах? Ці не ўспрымуць яны такую альтэрнатыву як яшчэ большае абмежаванне сваёй свабоды і не пачнуць бегаць ад яе таксама, як сёння ад арміі? І хаця ўжо зараз зразумела, што наша альтэрнатыўная служба будзе адрознівацца ад нямецкай і пытанняў больш, чым адказаў, неабходнасць яе стварэння відавочная. Чалавек павінен мець права ажыццявіць свае канстытуцыйныя свабоды і сам абіраць шлях, па якому пойдзе яго жыццё. Тым больш, як стала зразумела апошнім часам, пасля падпісання пагадненняў паміж Расіяй і Беларуссю, нікуды не знікла небяспека таго, што нашых хлопцаў дзеля "высокіх дзяржаўных інтарэсаў" кінуць у Чэчню ці на ахову таджыкскіх межаў.

"Я нават і не ведаю, дзе зараз маглі б тут працаваць вашы прызыўнікі, -- сказаў, пазнаёміўшыся з нашым жыццём, Себасцьян. -- Але спачатку ў нас таксама было шмат цяжкасцей. Мы іх перамаглі. Вось убачыце, тое ж будзе і ў вас..."

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# МІЖНАРОДНЫ АДУКАЦЫЙНЫ ЦЭНТР – ШЛЯХ ДА ПРЫМІРЭННЯ

Наконт архітэктурнага аблічча Міжнароднага адукацыйнага цэнтра ў Мінску, будаўніцтва якога завершана летась, у розных людзей складваюцца розныя меркаванні. Адны сцвярджаюць, што з вышыні птушынага палёту ён здаецца нагрувашчваннем геаметрычных фігур: трохвугольніка, прамавугольніка, шара. Для тых, хто ўпершыню аглядаў будынак з зямлі, ён нагадваў нешта падобнае на параход.

Магчыма, кожны па-свойму мае рацыю. Але найбольш дакладна выказаўся намеснік прэм'ер-міністра зямлі Паўночны Рэйн -- Вестфалія доктар Херберт Шноар, які падкрэсліў на прэс-канферэнцыі для журналістаў: "За аснову гэтага збудавання ўзяты сюжэт карціны мастака-мадэрніста Казіміра Малевіча".

Першы камень цэнтра быў закладзены 22 чэрвеня 1991 года -- праз паўстагоддзя з пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

-- Нашы дзяды і бацькі разбуралі дамы на беларускай зямлі, -- казалі прадстаўнікі Германіі, -- а мы хочам будаваць. Прыехалі ў Беларусь, каб папрасіць прабачэння за тую вайну, знайсці шляхі для прымірэння.

З якой мэтай створаны Міжнародны адукацыйны цэнтр і чаму за будаўніцтва яго ўзяўся германскі бок? На сённяшні дзень Германія -- адзін з галоўных эканамічных партнёраў Беларусі. Чатырохгадовае супрацоўніцтва арганізацыі IBB з Дортмунда з мінскім гарвыканкомам і Беларускім міжнародным маладзёжным турыстычным цэнтрам "Спадарожнік", а таксама беларускімі будаўнікамі і нарадзіла ідэю стварыць культурны цэнтр. Тут будуць праходзіць сустрэчы палітыкаў, эканамістаў, вучоных, бізнесменаў, прадстаўнікоў розных рэлігій... Людзьмі розных нацыянальнасцей, веравызнанняў і прафесій тут будуць абмяркоўвацца, вырашацца злабадзённыя праблемы, распрацоўвацца праекты супрацоўніцтва ў розных галінах чалавечых адносін. Ужо ў першы дзень работы цэнтра прайшоў кангрэс, прысвечаны пошуку шляхоў да цывілізаванага еўрапейскага грамадства.

-- Функцыі цэнтра, -- расказвае яго кіраўнік прафесар Анатоль Міхайлаў, -- практычна неабмежаваныя. Для гэтага ёсць усе ўмовы: зала на 250 чалавек, пакоі для семінарскіх заняткаў, бібліятэкі, сауна, клуб і асобныя пакоі для прадстаўніцтваў, гасцініца на 80 месцаў... Асабліва спадабаўся першым нашым наведвальнікам рэстаран "Вестфалія", меню якога складаюць стравы еўрапейскіх кухняў. Прычым, меню мяняецца літаральна кожны дзень. Для правядзення навуковай праграмы запрашаем добра вядомых у свеце лектараў, вучоных, бізнесменаў, святароў. Удаскапальвацца, уносіць карэктывы супрацоўнікам цэнтра даводзіцца даволі часта. Напрыклад, цяпер у нас з'явілася магчымасць вучыць замежным мовам і дзяцей, і моладзь, і дарослых.

І па сваёй архітэктуры, і па размаху праводзімых мерапрыемстваў Міжнародны адукацыйны цэнтр у Мінску -- адзін з лепшых у Еўропе.

**Яўген ІВАНОЎ.**

**НА ЗДЫМКУ: будынак цэнтра.**



## ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ

# ПЫТАННЕ ДА ПРЭЗІДЭНТА

Вельмі паважаная рэдакцыя "Голасу радзімы"!

Я маю пытанне да вас. А можа і да самога Прэзідэнта. У N 37 (2387) "Голасу Радзімы" ад 15 верасня 1994 года на бачыне 3-й была надрукавана цытата з выступлення Прэзідэнта А. Лукашэнкі ў Дзяржаўным педагагічным універсітэце. Выглядае, што спадар Прэзідэнт больш дбае пра іншыя мовы, чым пра беларускую мову і тады глядзіш на гэтую справу так, быццам край і мова беларуская не ёсць родныя для спадара Прэзідэнта. Выбіраюць Прэзідэнта для краіны, каб ён любіў і дбаў пра свой край, мову і народ, а іншыя народы, што жывуць у Беларусі, хай дбаюць самі за сябе. Ці ў Расіі дбаюць аб беларускамоўных школах так, як гэта робяць у Беларусі? Ды наогул, якая суседняя краіна Беларусі дбае аб беларускамоўнай школе?! Мой погляд такі: палякі ці расійцы, украінцы, літоўцы, латышы павінны мець такую самую талерантнасць, якую маюць беларусы, нашы школы -- у гэтых краінах, а іхнія -- у нас, такі павінен быць узаемны падыход да справы. Яўрэйскія і татарскія ў нас былі праз стагоддзі, то павінны быць і цяпер.

Спадар Прэзідэнт ёсць галава Беларускай дзяржавы, яго беларусы паставілі першым, дык трэба, каб Прэзідэнт ставіў на першае месца беларусаў і іх мову. Гэтак робіць кожны прэзідэнт краіны, якую ён узначальвае. Чаму беларускі Прэзідэнт чыніць інакш? На Беларусі была талерантнасць як да канфесіяў, так і да моў чужынцаў, нідзе не было, каб беларусы ўціскалі веру чыю ці мову чыю. (Як вядома, забарона была на беларускую мову з Варшавы, а пазней з Масквы).

Зазначана, каб у беларускіх школах вывучалі замежныя мовы, гэта цудоўная ідэя, толькі каб былі ахвотнікі да гэтага, і ўсё будзе добра. У Беларусі мусіць шанавацца ўсімі нацыянальнасцямі беларуская мова, мова Рэспублікі Беларусь. Гэтак адбываецца ва ўсіх краінах свету. Кожная краіна складаецца з розных нацыянальных меншасцяў, але нідзе ў свеце так не турбуюцца пра чужынцаў, як у Беларусі.

З павагай

**К. ВЕРАБЕЙ.**

ЗША.

## Юрка РАПЭЦКІ НАВЕДАЎ РАДЗІМУ

# КОЛЬКІ КАШТУЕ СЛОВА БОЖАЕ?



Прапаведніка з Канады Юрку Рапэцкага добра ведаюць на Беларусі. Кожную нядзелю гучаў яго голас у рэлігійнай перадачы нашага радыё. Не так даўно евангельскі святар асабіста наведаў радзіму. Прабыў ён тут нядоўга -- усяго чатыры дні, але за гэты час адбылася прэзентацыя другога выдання яго кнігі "Маё жыццё ў Хрысце", якое ажыццявіла ў Мінску Беларуская евангельская царква. І яшчэ адно (не вельмі прыемнае) пытанне давялося вырашаць тут канадскаму святару: аб лёсе яго выступленняў у перадачах Беларускага радыё. Справа ў тым, што за адну мінуту выступлення ў эфіры канадскаму прапаведніку было прапанавана ў далейшым плаціць па 50 долараў. Відаць, падзенне ў грамадстве нораваў і маралі нехта спрабуе кампенсаваць ростам цаны на слова Божае. Што ж, у гісторыі чалавецтва за ісціну даводзілася плаціць і больш высокую цану, але, як правіла, пакутавала ад гэтага не ісціна, а людзі, якія спрабавалі зрабіць яе прадметам гандлю.

Юрка Рапэцкі ад далейшага супрацоўніцтва з Беларускім радыё адмовіўся. У сувязі з гэтым узнікаюць некаторыя пытанні, ну напрыклад, калі дзейнасць дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі так імкліва пераводзіцца на камерцыйную аснову, дык, можа, хай плаціць за сваё з'яўленне ў эфіры не адзін Юрка Рапэцкі, але і іншыя тутэйшыя "прапаведнікі" ад палітыкі, гандлю і бізнесу, а таксама шматлікія экстрасэнсы і ведзьмакі, што цалкам бясплатна дураць галовы даверлівым слухачам. А, па-другое, куды меркавалася накіраваць грошы, якія выклянчваліся ў святара? У чыю-небудзь кішэню ці, можа, на атэістычную прапаганду? А што, у нас усё магчыма...

**БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ І АЧАРНЕННЯ**

# ЯК СЛУЧАКІ БАРАНІЛІ СВОЙ ДОМ

Па стратэгічных меркаваннях камандаванне вырашыла перанесці стаўку на Палессе, у вёску Морач, што знаходзілася таксама ў нейтральнай зоне ў адной вярсце ад савецкай граніцы.

17 снежня Найвышэйшая Рада распарадзілася аб назначэнні Андрэя Якубецкага Галоўнакамандуючым войскамі БНР. Загад N 1 за подпісам Якубецкага заклікаў "весці барацьбу, пакуль беларус не стане гаспадаром на сваёй зямлі", "да поўнага вызвалення Бацькаўшчыны ад захопнікаў, "ад ярма чужых народаў" і г.д. (загад быў надрукаваны ў "Беларускім слове" ад 6 студзеня 1921 года).

Другі і апошні загад Якубецкага як Галоўнакамандуючага быў аб узнагародзе за баявыя заслугі афіцэраў брыгады: І. Залескага, А. Курыловіча, А. Бранавіцкага, П. Бранавіцкага, І. Багушэвіча, А. Мірановіча, П. Яновіча, Я. Сямашкі, Н. Кернажыцкага, І. Копеца.

У Морачы высвятленне адносін працягвалася. Вёска блізка знаходзілася ад Лунінца, былой стаўкі Булак-Балаховіча. Тут заставаліся яго аддзелы і склады са зброяй і амуніцыяй. У. Пракулевіч даведаўся, што балахоўцы рыхтавалі захоп штаба брыгады. У шпіталі А. Паўлюкевіча хаваўся брат генерала Язэп Булак-Балаховіч. Дайшлі чуткі, што Ст. Булак-Балаховіч і члены Беларускага палітычнага камітэта вырашылі арыштаваць Пракулевіча, Жаўрыда і Якубецкага, абвінавачваючы іх у паражэнні. Для арышту эсэраўскай часткі Рады з Лунінца выйшаў аддзел Дзямідава ў колькасці 500 чалавек.

Але зводзіць рахункі ўжо не было часу. Часці паўстанцаў адступалі. З дня на дзень чырвоных чакалі ў нейтральнай зоне. Нехта прынёс навіну, што згодна з дамовай паміж Іёфэ і Домбскім на Рыжскай канферэнцыі савецкія войскі атрымалі дазвол увайсці ў нейтральную зону на 77 гадзін "для ачысткі зоны ад бандытызму".

Адыходзілі ў Заастравечча, у вёску на беразе Лані, пакідаючы за сабою трупы рэўкомаўцаў, расстраляных у ноч адступлення. Гэта былі людзі не мясцовыя, прыйшлі здалёку, некаторы час уладарылі ў Вызні па загаду камандавання Чырвонай Арміі.

У Заастравеччы сход афіцэраў выказаў недавер Радзе, абвінавачваючы ў змане, адсутнасці дапамогі з боку ўрада БНР, няздольнасці забяспечыць паўстанцаў зброяй і харчам. Раду абвінавачвалі ў няўдачы. Рада выехала ў Баранавічы на нараду з прадстаўнікамі Найвышэйшай Рады. Перад ад'ездам прыхавалі дзве скрыні ручных бомбаў, каб не засталіся балахоўцам, якія самастойна пачалі ўтвараць партызанскія аддзелы.

Нарада, на якой прысутнічалі Цярэшчанка, Жаўрыд, Пракулевіч, Якубецкі, вырашыла ліквідаваць паўстанцкую акцыю. Жаўрыд паехаў далей у Варшаву, каб распрацаваць план ліквідацыі рэшткаў брыгады і ўмовы інтэрнавання. Брыгада павінна была адначасова перайсці польскую мяжу і быць інтэрнавана як армія БНР.

У Стаўцы гэта рашэнне не было падтрымана большай часткай афіцэраў, якія настойвалі на працягу барацьбы з чырвонымі шляхам стварэння нерэгулярных дыверсійных аддзелаў. Тым не менш пастанова аб ліквідаванні брыгады была прынята. 28 снежня перайшлі мяжу і былі інтэрнаваны больш за 1,5 тысячы чалавек (па даных У. Пракулевіча). Слуцкая рада знаходзілася ў Баранавічах яшчэ месяц. Ад імя Слуцкай рады ў студзені 1921 года была прынята рэзалюцыя, якая, падводзячы вынікі падзеі, канстатавала:

1. Польшча аніякай адчувальнай дапамогі паўстанцам не аказала, наадварот, чыніла перашкоды.

2. Адзіным правамоцным урадам прызнаецца ковенскі ўрад БНР, астатнія -- урад Кнорына, Найвышэйшая Рада, Беларускі палітычны камітэт на чале з В. Адамовічам -- незаконныя.

3. Генерал Булак-Балаховіч не мае законнага і маральнага права кіраваць беларускімі ваеннымі спалучэннямі, як самазванец і пагромшчык.

Гэтую пастанову Рады падтрымалі толькі 9 чалавек з 17. За апошнім подпісам Івана Каўпака Пракулевічу прыйшлося ехаць у Нясвіж. Каўпак збіраўся ўжо "дахаты", як і большасць з паўстанцаў.

Частка Слуцкай брыгады (каля 400 чалавек) на чале з афіцэрамі засталіся ў нейтральнай зоне для працягу ваенных дзеянняў партызанскага характару. Некаторыя атрады ўвайшлі ў склад "Зялёнага Дуба", як, напрыклад, Паўла Бранавіцкага, Антона Самусевіча і г.д.

На беларускай нацыянальна-палітычнай нарадзе ў Празе 29 верасня 1921 года была прынята рэзалюцыя "аб Слуцкім паўстанні". Падзел характарызаваўся як "нацыянальнае паўстанне за незалежнасць Беларусі", "супраць Масквы" і "супраць Варшавы".

**Ніна СТУЖЫНСКАЯ.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 50—52 (1994 г.), №№ 1—6.**

# ПАМІЖ ЖЫЦЦЁМ І СМЕРЦЮ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Але падобная ацэнка была ўжо крыху запозненай. Вынікі перапісу насельніцтва 1959 года ўразілі свет: страты Савецкага Саюза аказаліся яшчэ большымі.

Толькі ў 1990 годзе з'явілася новая ацэнка ахвяр вайны -- вынік работы спецыяльна створанай камісіі Дзяржкамстата СССР і Акадэміі Генштаба. Агульныя людскія страты (непасрэдна ад баявых дзеянняў) савецкага народа склалі 27 мільёнаў чалавек, у тым ліку забітыя ў баі і памерлыя ад ран ваеннаслужачыя, партызаны і падпольшчыкі, што памерлі ад голаду і хвароб, мірныя грамадзяне, што загінулі ў час бамбёжак і артабстрэлаў, расстраляныя карнікамі і закатаваныя ў канцэнтрацыйных лагерах ваеннапалонныя, партызаны і іншыя.

Але і гэтая вялікая лічба не прэтэндуе на абсалютную дакладнасць. Ва ўказаную велічыню не ўваходзяць, напрыклад, эмігранты і ахвяры ГУЛАГа.

Што стаіць за гэтымі лічбамі?

Адна з самых драматычных гісторый ваенных гадоў -- лёс савецкіх ваеннапалонных, які рэзка адрозніваўся ад лёсу англійскіх, французскіх ці амерыканскіх сабратоў.

У першыя дні вайны часці Заходняй Асобай ваеннай акругі, дыслакаванай на тэрыторыі Беларусі, панеслі скрышальныя страты, пра што наглядна сведчыць наступны дакумент вермахта.

**Камандуючы войскамі групы армій "Цэнтр"** **Штаб-кватэра 8 ліпеня 1941 года**

**ЗАГАД**

**Бітва ў раёне Беласток--Мінск завершана. Войскі групы армій змагаліся з чатырма рускімі арміямі, у склад якіх уваходзіла каля 32 стралковых, 8 танкавых дывізій, 6 механізаваных брыгад і 3 кавалерыйскія дывізіі. З іх разгромлена:**

**22 стралковыя дывізіі, 7 танкавых дывізій, 6 мотамеханізаваных брыгад, 3 кавалерыйскія дывізіі.**

**Баявая магутнасць астатніх злучэнняў, якім удалося пазбегнуць акружэння, таксама значна аслаблена. Страты праціўніка ў жывой сіле вельмі вялікія.**

**Падлік палонных і трафеяў на сённяшні дзень выявіў:**

**287 704 палонныя, у тым ліку некалькі камандзіраў карпусоў і дывізій, 2 585 захопленых ці знішчаных танкаў, 1 449 гармат, 246 самалётаў, мноства ручной зброі, боепрыпасаў, транспартных сродкаў, склады прадуктаў і гаручага.**

**Нашы страты былі не вышэйшыя, чым тыя, якія гатовы панесці мужныя войскі...**

**Фон БОК,**
**генерал-фельдмаршал.**

Згодна з выніковай зводкай германскага камандавання, усяго за гады вайны ў палон трапілі 5 754 тысячы савецкіх салдат і афіцэраў, у тым ліку ў 41-м -- 3 335 тысяч, а ў 1945-м -- 34 тысячы.

Па іншых даных нямецкіх крыніц, да 1 снежня 1941 года было захоплена ў палон 3 807 тысяч савецкіх ваеннаслужачых (толькі на тэрыторыі Беларусі ў чэрвені-ліпені 1941 года было ўзята ў палон каля 500 тысяч ваеннаслужачых, звыш 600 тысяч загінулі ў баях. -- **І.К.**).

Улічваючы, што большасць палонных у 1941 годзе загінула ад рэпрэсій, голаду, хвароб (да вясны 1941 года ў лагерах заставалася толькі 1,1 мільёна чалавек), лічбу 3 335 тысяч палонных варта лічыць заніжанай за кошт памерлых у лагерах без належнай рэгістрацыі, а таксама тых 200 тысяч палонных, яшчэ ў 1941 годзе залічаных у германскую армію ў якасці дапаможнага персаналу -- "добраахвотных памочнікаў".

Таму агульную колькасць палонных мы павялічваем да 6,2 мільёна чалавек, з якіх ад 100 да 200 тысяч з палону ўцяклі, 1 836 тысяч пасля вайны вярнуліся на Радзіму (да 80 працэнтаў з іх папоўнілі рады вязняў ГУЛАГа. -- **І.К.**), ад 100 да 200 тысяч (амаль выключна выхадцы з Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны) засталіся ў заходніх акупацыйных зонах Германіі і Аўстрыі і так і не змаглі вярнуцца на Радзіму, а прыкладна 4 мільёны загінулі ў фашысцкім палоне.

Спачатку германскае кіраўніцтва, разлічваючы на бліцкрыг, не клапацілася пра лёс палонных. Іх амаль не кармілі і расстрэльвалі па самай нязначнай прычыне і без усялякай прычыны. "Дапамагла" такой бесчалавечнай практыцы і тая акалічнасць, што да Жэнеўскай канвенцыі 1929 года аб абыходжанні з палоннымі СССР не далучыўся (Германія падпісала гэты дакумент у 1934 годзе).

У 1930 годзе выканком Саюза таварыстваў Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца СССР абгрунтаваў сваю адмову тым, што шэраг палажэнняў канвенцыі 1929 года не адпавядае грамадскаму ладу СССР (недастаткова дакладна гарантуюцца правы ваеннапалонных, адсутнічае забарона на выкарыстанне іх на работах ваеннага характару і г.д.). Аднак фактычна падобная аргументацыя была толькі падставай для таго, каб не падпісваць канвенцыю 1929 года. Адносіны да яе вызначаліся ваеннай дактрынай, што панавала ў краіне ў той час. Меркавалася, што магчымая вайна будзе наступальнай і што баявыя дзеянні будуць весціся на чужой тэрыторыі. Пры такім характары вайны лічылася, што масавага паланення савецкіх войскаў не будзе. Такім чынам, пытанне аб савецкіх ваеннапалонных адпадала. У гэтым праявіліся негатыўныя адносіны савецкага кіраўніцтва таго часу (Сталін, Молатаў, Калінін і іншыя) да ваеннапалонных.

Да таго ж Савецкі Саюз, які не падпісаў канвенцыю, адмовіўся выконваць у адносінах да германскіх палонных два яе найважнейшыя палажэнні -- прадастаўленне Міжнароднаму Чырвонаму Крыжу поўнага спісу трапіўшых у палон і перадачу палонным пасылак з радзімы.

Гэта развязала Гітлеру рукі ў ажыццяўленні генацыду супраць мільёнаў савецкіх салдат і афіцэраў, што апынуліся ў палоне. Нашы салдаты, якія сваім жыццём загладзілі памылкі кіраўніцтва краіны, аказаліся імі ж кінутымі. Прапановы Чырвонага Крыжа аб дапамозе былі адхілены. Сталін гаварыў: "Няма рускіх ваеннапалонных. Рускі салдат б'ецца да смерці. Калі ён выбірае палон, то ён аўтаматычна выключаецца з рускай супольнасці".

Толькі з 1942 года, калі стаў ясны зацяжны характар вайны, немцы пачалі больш клапаціцца пра палонных і шырока выкарыстоўваць іх для калабарацыяністцкіх фарміраванняў.

Усяго ў такіх фарміраваннях служыла каля 1 мільёна былых савецкіх палонных. Амаль усе яны пасля вайны былі рэпатрыіраваны заходнімі саюзнікамі ў СССР, дзе апынуліся ў лагерах. Зрэшты, там апынуліся і многія з тых, хто прабыў за нямецкім калючым дротам "ад званка да званка", не здрадзіўшы Радзіме.

Фашысты спрабавалі праводзіць на захопленай тэрыторыі нацыянальную палітыку, арыентаваную перш за ўсё на нацыяналістычна настроеныя групы. Але ў той жа час практычна ўсе народы краіны (у тым ліку і беларусы), за выключэннем фінаў, казакоў, адносіліся імі да недачалавекаў. Да славян, што складалі большасць насельніцтва акупіраванай тэрыторыі, саратнік Гітлера, "генсек" нацыянал-сацыялістычнай партыі Борман, патрабаваў падыходзіць, кіруючыся наступнымі прынцыпамі: "Славяне павінны працаваць на нас. Калі мы не маем патрэбы ў іх, то яны могуць памерці. Сістэма аховы здароўя не патрэбна. Нараджэнні ў славян непажаданыя. Яны павінны выкарыстоўваць кантрацэпцыю і практыкаваць аборты, і чым больш, тым лепш.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

**(Працяг будзе).**

*У ТАВАРЫСТВЕ "РАДЗІМА"*

# СКРЫЖАВАННІ ДАРОГ — СКРЫЖАВАННІ ЛЁСАЎ

Мінск. Скрыжаванне вуліц Арлоўскай і Карастаянавай. Тут у красавіку 1991 года з'явіўся гранітны Знак памяці ахвярам чарнобыльскай катастрофы. А побач з ім -- тры маладыя бярозкі -- сімвал трагічнага лёсу трох братніх народаў: беларусаў, рускіх, украінцаў. Сапраўды, радыяцыя граніц не прызнае. Але ж за гэтымі словамі бачыцца не толькі чарнобыльскі джын -- страшэнны вораг усяго жывога. За імі -- і чалавечая спагада, і міласэрнасць, і шчырае імкненне дапамагчы ахвярам чарнобыльскай трагедыі. Адзін з прыкладаў -- гуманітарная дапамога замежных суайчыннікаў.

Яшчэ ў ліпені 1989 года -- за два гады да ўзвядзення гранітнага Знака памяці, пра які мы гаварылі напачатку, -- таварыства "Радзіма" сумесна з Беларускай праваслаўнай царквою і шэрагам іншых грамадскіх аб'яднанняў звярнулася да суайчыннікаў ва ўсіх краінах свету з просьбай дапамагчы насельніцтву раёнаў Беларусі, што пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы. А ўжо ў кастрычніку таго ж года на адрас таварыства паступіла першая партыя гуманітарнай дапамогі з Германіі. Прывёз яе наш зямляк Міхаіл Мельнік. І пацягнуліся "чарнобыльскія абозы міласэрнасці" на Беларусь: з Германіі і Канады, са Злучаных Штатаў Амерыкі.

Сёлетні год толькі яшчэ бярэ разгон, а на адрас таварыства "Радзіма" прыйшлі новыя пасылкі.

На пачатку студзеня -- ад Федэрацыі рускіх канадцаў. Два сучасныя камп'ютэры для клінікі НДІ радыяцыйнай медыцыны ў Аксакаўшчыне. Іх кошт -- 6 тысяч 450 амерыканскіх долараў. Ад грамадзянскай асацыяцыі "Гумбальт-парк" і Руска-амерыканскага жаночага таварыства ў Чыкага атрымана медыкаментаў на суму 4 тысячы 878 долараў ЗША. Медыкаменты перададзены ў дзіцячае аддзяленне НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі ў Бараўлянах.

Калі пісалася гэта заметка, прыйшла новая добрая вестка: у аэрапорце "Мінск-2" "прызямлілася" чарговая партыя гуманітарнай дапамогі на адрас таварыства "Радзіма", размешчанага на скрыжаванні вуліцы Захарава і Вайсковага завулка.

...Скрыжаванні вуліц, дарог, скрыжаванні лёсаў, людзей, народаў. Правільна сказана, што супрацоўніцтва -- сутнасць існавання цывілізаванага чалавецтва. І ўмовы для яго трэба ствараць. Свой пасільны ўклад у гэта робіць і таварыства "Радзіма".

**Уладзімір МЯЛЕШКА,**
**намеснік старшыні праўлення таварыства "Радзіма".**

329

**АНТЫСЕМІТЫЗМ.** У канцы 40-х гадоў праводзілася кампанія па барацьбе з касмапалітызмам, скіраваная пераважна супраць асоб яўрэйскай нацыянальнасці. Дацэнта БДУ Л.Барага абвінавацілі ў непавазе да рускіх дэмакратаў, загадчыка аддзела прапаганды газеты "Звязда" Ф.Іофэ — у ганьбаванні беларускай культуры, кіраўніка прамкааперацыі БССР Марголіна — у ігнараванні падрыхтоўкі беларускіх кадраў. У 1952 годзе справа Марголіна ўсплыла зноў, у сувязі з кампаніяй па барацьбе з раскраданнем сацыялістычнай уласнасці і хабарніцтвам, якая праводзілася пад кіраўніцтвам новага сакратара ЦК КПБ М.Патолічава (1950—1956). Разам з 7 іншымі "буржуазна-яўрэйскімі нацыяналістамі" ён быў асуджаны да знявolення. За першай групай яўрэйскіх "раскрадальнікаў" ішла другая, за ёю — трэцяя. Яўрэйскіх "нацыяналістаў-шкоднікаў" знаходзілі паўсюдна. Рэпрэсіі скіроўваліся на ўрачоў, навукоўцаў-генетыкаў, нават партыйную бюракратыю. Ставілася мэта адхіліць яўрэяў ад медыцыны, гандлю, кіравання. Антысеміцкая палітыка вялася пад выглядам абароны інтарэсаў беларускага народа. Нацысцкі антысемітызм, які разбэшчваў беларусаў пад нямецкай акупацыяй, змяніўся бальшавіцкім. Брудная справа гітлераўцаў працягвалася сталіністамі. Тым самым узнаўлялася і старая расійская традыцыя: усе беды і няўдачы спісваць на яўрэяў.

**РЭЛІГІЙНЫ ТЭРОР.** Пачалося ўпартае змаганне з узросшай за вайну рэлігійнасцю людзей і апазіцыйнасцю духавенства, якое адмаўлялася

330

рэгістраваць цэрквы і рэлігійныя абшчыны ў дзяржаўных установах і падпарадкоўвацца ім. У 1946 годзе чатыры святары Гомельскай вобласці адмовіліся прызнаваць Маскоўскага патрыярха, як стаўленіка бальшавікоў. Амаль усе ксяндзы не прымалі савецкай улады і запісаліся на выезд у Польшчу, але па загаду Ватыкана ўзялі заявы назад. Мясцовыя ўлады былі гэтым незадаволены. Яны якраз і імкнуліся як мага больш перасяліць лацінскіх святароў у Польшчу або ў Сібір. Яўрэі ўпарта трымаліся сваіх рэлігійных абрадаў, хоць пасля вайны на ўсю Беларусь улады дазволілі ім адчыніць усяго адну сінагогу ў Мінску. Не заставаліся па-за ўвагай камуністычнага кіраўніцтва і беларускія мусульмане, якім належалі ў пасляваенный Беларусі чатыры мячэці. Асаблівая вялікі клопат савецкія атэісты мелі ў заходніх абласцях Беларусі, дзе ў 1946 годзе дзейнічалі не толькі 238 касцёлаў, але і большасць цэркваў (511 з 731), сінагог ды і абшчын баптыстаў-евангелістаў. Але паступова і ў Заходняй Беларусі царква падпадала пад кантроль КДБ. Камуністаў за хрышчэнне дзяцей выключалі з партыі, выганялі з працы.

**НАСАДЖЭННЕ КУЛЬТУ СТАЛІНА.** У 1949 годзе ў сувязі з 70-годдзем Сталіна яго імя атрымалі сотні калгасаў, прадпрыемстваў і вуліц. Усюды, дзе пабываў правадыр, з'явіліся мемарыяльныя дошкі: Мінск (1919, Заходні фронт), Орша, Брэст (1945, праездам на Патсдамскую канферэнцыю). Вось толькі перайменаваць Бабруйск у Сталінск маскоўскія ўлады Гусарову не дазволілі: занадта ужо шмат развялося

331

сталінскіх гарадоў па Саюзу ці не той горад выпучылі для перайменавання. 28 лютага 1951 года ў Мінску адбыўся 120-тысячны мітынг, прысвечаны аднадушнаму выбранню Сталіна ў Вярхоўны Савет БССР. У 1952 годзе грандыёзны помнік правадыру ўзняўся на Цэнтральнай плошчы сталіцы.

## 30.3. Таталітарная культура

**НАРОДНАЯ АДУКАЦЫЯ.** Беларускія дзеці вучыліся чытаць па рускаму буквару, хоць большасць школ заставаліся яшчэ беларускімі (10 937 з 11 300). Сталінская работа "Марксізм і пытанні мовазнаўства" выкарыстоўвалася як аргумент для русіфікацыі школы. У 1949—1951 гадах разам з увядзеннем абавязковага сямігадовага навучання дзяцей ва ўзросце 7—15 гадоў заахвочвалася двухмоўе (найперш у Мінску і вобласці), у выніку чаго дзеці пераставалі добра ведаць як беларускую, так і рускую мовы. Пасля адмены ў красавіку 1951 года Міністэрствам асветы БССР абавязковых экзаменаў па беларускай мове працэс пераходу на рускае выкладанне ў школах паскорыўся. Натуральная цікавасць да культуры, гісторыі, традыцый, мовы свайго народа тлумачылася камуністамі, як праява нацыяналізму. Вялася падрыхтоўка да друкавання рускіх падручнікаў і да перавыдання выдадзеных у 1945—1946 гадах гісторыі Беларусі і гісторыі беларускай літаратуры, дзе бальшавікі выявілі памылкі на-

332

цыяналістычнага характару. У 1951 годзе прамаскоўскія ўлады звольнілі з пасады міністра асветы БССР П. Саевіча, які браў пад абарону беларускіх патрыётаў і яўрэяў, а ў 1952 годзе яго судзілі.

**ВЫШЭЙШАЯ ШКОЛА.** Яшчэ да заканчэння вайны адкрыўся педінстытут у Гродне (1944), пазней — у Брэсце. У 1948 годзе быў заснаваны Мінскі педінстытут замежных моў. У 1949-м пры політэхнічным інстытуце ў Мінску адкрылася архітэктурнае аддзяленне, а ў 1951-м пачаў працаваць Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут. Аднак мясцовыя інстытуты не забяспечвалі гаспадарку БССР неабходнымі спецыялістамі. У пачатку 50-х гадоў патрэба ў інжынерах-будаўніках, напрыклад, забяспечвалася толькі на 8 працэнтаў. Адзін студэнт ВНУ прыходзіўся ў БССР на 550 чалавек, тады як у Літве — на 312, на Украіне — на 300, ва Узбекістане — на 230, Латвіі — на 220 чалавек. На ўсю Беларусь меліся 74 дактары навук.

**НАВУКА.** У галіне дакладных навук ішла барацьба супраць генетыкаў-марганістаў. Прафесара біялогіі А. Жэбрака знялі з пасады прэзідэнта АН БССР за "антыпатрыятычны" ўчынак — публікацыю артыкула ў амерыканскім часопісе "Сайнес" ("Навука"). Пацярпеў і членкарэспандэнт Жырмунскі за выступленне на Міжнародным кангрэсе геолагаў. Вядомыя навукоўцы Беларусі не мелі права станоўча адносіцца да дасягненняў замежнай "буржуазнай" навукі. Пазней Жэбрака ўвогуле выгналі з АН БССР як ваяўнічага марганіста.

Канцэпцыя гісторыі БССР распрацоўвалася

Захар ШЫБЕКА

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў ХІХ – ХХ СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

333

пад наглядам ЦК КПБ(б) і апекай маскоўскіх акадэмікаў Б. Грэкава і Г. Панкратавай. Прычым з 1951 года ўсім, хто пабываў у нямецкім палоне, вучыўся за мяжой ці меў там сваякоў, закрылі доступ да архіўных матэрыялаў. Кат беларускага народа Л. Цанава з дапамогай наняты навукоўцаў пісаў кніжку пра партызан. У Мінску адкрыўся музей Вялікай Айчыннай вайны, у Оршы — музей К. Заслонава. Па загаду зверху краязнаўчыя і гістарычныя музеі пачыналі гісторыю Беларусі з савецка-германскай вайны. Рабілася ўсё, каб беларускі народ не ведаў сваёй мінуўшчыны.

Пасля вайны ў Акадэміі навук узнавіўся сектар філасофіі. Стыпендыі аспірантаў і аклады навуковых супрацоўнікаў АН БССР былі ніжэйшымі, чым у іншых філіялах АН СССР або ў ВНУ.

**ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА.** У 1946 годзе па загаду сталінскага ідэолага А. Жданава разгарнулася кампанія крытыкі фармалізму ў літаратуры. Пад яе падпалі і творы беларускіх пісьменнікаў. Большасць пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў уключыліся ў праслаўленне Сталіна. У 1949 годзе лаўрэатам сталінскай прэміі па Беларусі стала Сафія Лі за серыю дакументальных карцін з натуры аб месцах Туруханскай высылкі Сталіна. Многія звярнуліся да тэмы вайны і партызанскага руху. Але што б ні рабілі працаўнікі культуры, яны не мелі права адступаць ад прынцыпаў так званага сацыялістычнага рэалізму — паказваць жыццё такім, якім яго хацелі бачыць камуністы, гэта значыць бесканфліктным і напоўненым верай у

334

шчаслівую камуністычную будучыню. Творцы сталінскай школы надавалі бальшавізму чалавечае аблічча, якога ён ніколі не меў, і тым самым дапамагалі узурпатарам уводзіць людзей у зман.

Аднак нацыянальныя матывы ў мастацтве праяўляліся спантанна. "Беларусьфільм" экранізаваў купалаўскую "Паўлінку" (1952). У тэатры оперы і балета БССР у сталінскі час была пастаўлена опера Д. Лукаса "Кастусь Каліноўскі". У той жа час створаны ў 1951 годзе Беларускі дзяржаўны народны хор пад кіраўніцтвам Р. Шырмы трымалі ў Гродне. Вядомага фалькларыста і кампазітара крытыкавалі за нацыянальную абмежаванасць, не друкавалі складзеныя ім зборнікі беларускіх песень, якія абвяшчаліся сумнымі і безыдэйнымі. З харавога калектыву выганялі непажаданых асоб, прымушалі артыстаў спяваць пра шчаслівае калгаснае жыццё і ўхваляць савецкі патрыятызм.

**ВІДОВІШЧЫ.** У канцы 40-х — пачатку 50-х гадоў узмоцнена праводзілася радыёфікацыя. Па загаду Сталіна, вялікага аматара кіно, пашыралася сетка кінаўстановак. Абкомы партыі мелі заданне кожны месяц пісаць справаздачы аб ходзе кінаабслугоўвання сельскага насельніцтва. Ідэалы камуністаў павінны былі дасягаць кожнай сялянскай хаты. З 1949 года пачынаюцца рэгулярныя спартыўныя спаборніцтвы. У 1951 годзе выйшла пастанова ЦК КП(б)Б аб развіцці ў БССР футбола і вытворчасці спартыўнага інвентару. Камуністычная дзяржава не шкадавала сродкаў для дэманст-

335

рацыі сваіх спартыўных дасягненняў. З 1950 года мінская футбольная каманда "Дынама" ўдзельнічала ў розыгрышы Кубка СССР. З 1953 года яна мела свой стадыён.

## 30.4. Пераможцы пад калгасным прыгонам

**КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЯ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.** З 1949 года, пасля прыдушэння антысавецкага падполля, калектывізацыя ў заходніх раёнах Беларусі ўзмацнілася. Праводзілася яна такімі ж метадамі, як і ў 30-х гадах ва ўсходняй частцы. Прысланы з Масквы ў 1948 годзе другі сакратар ЦК КПБ(б) С. Ігнацьеў прапаноўваў за кожны тэрарыстычны акт супраць калгаснага актыву рэпрэсіраваць 10 "кулакоў" і "падкулачнікаў". Якраз такімі ж нормамі і метадыкай карысталіся нацысты, калі ваявалі не столькі супраць партызан, колькі супраць мірнага насельніцтва Беларусі. Каб паскорыць калектывізацыю, у першай палове 1949 года з Заходняй Беларусі было выселена каля 7 тысяч сем'яў, у тым ліку 3 100 "кулацкіх", 2 600 "нацыяналістычных", 638 "паліцэйскіх" і 635 "бандыцкіх". Маёмасць высяленцаў канфіскоўвалася і перадавалася дзяржаўным установам і калгасам. У 1951 годзе М. Патолічаў хадайнічаў аб дадатковым высяленні яшчэ 1 638 кулацкіх сем'яў.

Аднаасобнікаў заганялі ў калгасы і эканамічным уціскам: абразалі надзелы, узнімалі

336

натуральныя падаткі (сельгаснарыхтоўкі), якія па мясу і малаку былі ў 2—2,5 раза большымі, чым у калгаснікаў. Калі ў 1948 годзе ў калгасах Заходняй Беларусі аб'ядноўвалася каля 5 працэнтаў сялянскіх двароў, то ў 1950-м — ужо каля 2 працэнтаў.

Першыя вынікі калектывізацыі аказаліся зусім нечаканымі. Руйнуючы аднаасобнікаў, камуністы скарачалі паступленні дзяржаве сельскагаспадарчых прадуктаў.

**УЗМАЦНЕННЕ КАЛГАСНАГА ПРЫГОНУ.** У чэрвені 1948 года выйшаў загад па Саюзу, які даваў права калгасным сходам высяляць прадстаўнікоў "паразітычных элементаў". Да 23 кастрычніка з Беларусі было выселена 239 чалавек, у тым ліку 51 аднаасобнік. Нягледзячы на ціск улады, людзі неахвотна галасавалі супраць сваіх аднавяскоўцаў, але сталінскі загад прымушаў хадзіць на працу і перавыконваць нормы. Аднаасобнікі таксама пачалі запісвацца ў калгасы. У той жа час вяскоўцы, як маглі, трымаліся за ўласную гаспадарку. У 1952 годзе больш 1/4 калгаснікаў не дацягвалі да таго мінімуму працадзён, што вызначыла для іх партыйная бюракратыя.

З 1950 года праводзіліся ўзбуйненні калгасаў. Большасць іх мела да 100 двароў. Што вёска, то калгас. Частка калгасных гаспадарак адміністрацыйным шляхам аб'ядноўвалася ў саўгасы. Узбуйненні давалі падставу для рабавання грамадскага дабра. Старшыні абіралі калгасныя касы ці проста прапівалі ўсё, што маглі. Працягваліся перасяленні хутаран у буйныя цэнтры.

У СВЕТ НАВУКІ –
З ПАЭТЫЧНЫМІ НАМЕРАМІ

# "УЗВЫСІЎСЯ – ЛЯЦІ!"

Галіна Булыка ўвайшла ў беларускую літаратуру імкліва, без зацяжнога перыяду вучнёўства, ужо першаю сваёю кніжкай ("Сінтэз", 1986), заняўшы ўстойлівыя пазіцыі прафесіянала. Яе вершы адразу ж прыцягнулі да сябе ўвагу крытыкаў, літаратуразнаўцаў, чытачоў нязвыклымі традыцыйнай беларускай паэзіі тэмамі, якія вымагалі ад паэткі і неўласцівай для іншых творцаў лексікі. Выпускніца хімічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта смела ўварвалася ў свет навукі з паэтычнымі намерамі, і ўжо аднаго гэтага дастаткова было, як слушна заўважыў паэт Леанід Дранько-Майсюк, каб застацца ў літаратуры. Што, зрэшты, і пацвердзілі ў хуткім часе складальнікі апошніх літаратурных энцыклапедычных даведнікаў і слоўнікаў, на старонкі якіх паэтка трапіла, будучы яшчэ аўтаркай толькі адной кніжкі.

У мінулым, 1994 годзе, Галіна Булыка выдала новы паэтычны зборнік з інтрыгуючым, загадкавым словам у загалоўку -- "Турмалін". З першых прачытаных радкоў кнігі трапляеш у свет канкрэтных рэчываў і з'яў жывой прыроды, з якімі штодня сутыкаешся, але пра незвычайныя ўласцівасці якіх дагэтуль нават не здагадваешся. Прычым, паэтка не проста ўводзіць нас у загадкавае ўнутранае царства бурштыну, жэмчугу, алмазаў, гліны, шкла, каменю... Яна гаворыць з чытачамі ад імя людзей, якія ўсё жыццё валадараць у гэтым царстве, а таму наблізіліся да спасціжэння ягоных таямніцаў і амаль што разгадалі спосабы іх магічнага ўздзеяння на чалавечыя душы.

**Дзве вечнасці.**
**Вада і камень.**
**Ваду адмераў Геракліт.**
**Плыве пясок,**
**сцякае памяць**
**З антычных выветраных пліт.**
**Дажджынка колішняй надзеі**
**У пыл здарожаны ўпадзе.**
**Зваротны шлях закамянее**
**І схлыне**
**ў дажджавой вадзе.**

Міжволі тут прыгадваеш чарадзействы старажытных алхімікаў, якія ў пошуках філасофскага каменю на доўгі час, а то і назаўжды адасабляліся за тоўстымі сценамі сутарэнняў ад будзённай мітусні дзеля засяроджанага роздуму ды шматгадовых доследаў.

**Мы шукаем прычыны,**
**Якія знайсці немагчыма,**
**Каб паверыць нарэшце,**
**Што жылі**
**паралельна**
**сабе.**

Не, паэтка пазбаўляе нас ад сузірання за гэтымі добраахвотнымі вязнямі ў часы іхніх сумненняў ды расчараванняў, а дазваляе бачыць толькі ў хвіліны магутных трыумфаў іх розуму і духу. Яна ўздымае сваіх герояў над драбнатою дзён і справаў на тую, амаль што ўжо небяспечную для простых смяротных вышыню, з якое ў ранейшую драбнату, бывае, і не вяртаюцца.

**Калі ты ўзыдзеш на мяжу**
**і смертны погляд ніцы**
**Растане ў марнай марнаце,**
**бы камень у лісці,**
**Зірні ў нябёсы!**
**Ды з-пад ног імкнецца чарапіца...**
**Нашто хапаешся за крыж!**
**Узвысіўся -- ляці!**

Такая сіла паэтычнага мыслення Галіны Булыкі дазволіла многім літаратуразнаўцам гаварыць пра мужчынскасць таленту. Думаю, што гэта не так. Халодныя рэчывы матэрыі ў маленькіх жаночых далонях набываюць нечаканую цеплыню і пяшчоту, і нават непазбежную мармуровую кропку ў канцы кожнага зямнога шляху Галіна Булыка малюе жыварoднымі вобразамі. Такая бязмежнасць светаадчування даецца жанчыне ва ўзнагароду за мукі мацярынства.

**Адветрылі гады,**
**Вякі сплылі**
**Скрозь дзень адзіны,**
**Шчыльны,**
**што каменне...**
**Празоры гук**
**хвалюецца ў Зямлі --**
**Пакорліва дачуліся калені...**

Адсутнасць жа ў "Турмаліне" вершаў трагічна-пафаснай любоўнай лірыкі, амаль абавязковай у творчасці нашых паэтак, толькі падкрэслівае згарманізаванасць душы аўтаркі, якая не дазваляе сабе самазнявагу пачуццямі роспачы, крыўды, зайздрасці, рэўнасці, помсты каханаму... Чаго толькі не прачытаеш у некаторых экзальтаваных асобаў?..

**Плынь часу праціскае камень,**
**Калі ўзвышае берагі.**

Такі самаўзвышаны спакой ці самазаглыбленая годнасць -- вельмі рэдкія госці на старонках жаночай лірыкі. І менавіта гэтыя якасці вылучаюць кнігі Галіны Булыкі, пра што б яна ні пісала. Адсюль -- дакладнасць эпітэтаў, нават іхняя ашчаднасць, графічная выверанасць радка. Яны робяць вершы маладой паэткі насычанымі. Іх нельга многа чытаць адным захадам, ёсць небяспека слізгануць па паверхні, не адчуўшы ўсёй сілы іх думкі і дакладна знойдзенага слова.

Мова твораў Галіны Булыкі патрабуе асобнай гаворкі. Але абысці маўчаннем гэты бок таленту немагчыма хаця б па той прычыне, што лексіка паняццяў і сэнсаў, у якія заглыбляецца паэтка, у беларускай мове амаль не распрацаваная. І тут ёй часта даводзіцца ісці па цаліку. Гэта тым больш складана, што беларускія аўтары не маюць адпаведнага асяроддзя, у якім бы маглі абжываць знойдзеныя і створаныя лексічныя варыянты азначэння новых з'яў ці паняццяў. У інтэрв'ю часопісу "Крыніца", які, дарэчы, менавіта з яе пачаў агляд ключавых постацяў сучаснай беларускай паэзіі, Галіна Булыка гаворыць, што "вырасла ў горадзе і практычна ніколі не мела натуральнага беларускамоўнага атачэння. Але, магчыма, пры такіх зыходных дадзеных наша мова робіцца для літаратара амаль малітоўнай, што дазваляе лягчэй "падключацца" да вышэйшых сфер, да нябеснага гучання. Так, наша мова выжыла, дзякуючы літаратуры. У гэтага медаля "За подзвіг" ёсць і адваротны бок. Беларуская літаратура доўгія гады мусіла існаваць (баюся сказаць -- развівацца) ва ўмовах адсутнасці дзяржаўных гарантый і на ўзроўні інстынкту самазахавання ўвесь час абараняць сябе ад пагрозы быць размытай, ад асіміляцыі. Адсюль -- памкненне абжываць ужо некалі жылыя мясціны, якія былі ці пакінутыя, ці знішчаныя, жаданне рэстаўраваць "запаведныя" традыцыі, агульная скіраванасць да зачыненасці, да кансерватыўнасці, да адмаўлення старонніх уплываў, да антаганізму "свайго" і "чужога". Функцыя культуры ў беларусаў дасюль не аддзялілася ад функцый дзяржавы. Мы жывём у дарэнесансны перыяд. Нездарма так часта (і ў літаратуры таксама) гучыць слова "адраджэнне". Мы яго прамаўляем, не асэнсаваўшы як след ролю гарадской культуры (не толькі мовы). Гэтая роля ў Еўропе акрэслілася менавіта пасля рэнесансу".

І яшчэ адну акалічнасць хацелася б вылучыць у творчасці Галіны Булыкі -- яе вялікую павагу да чытача. Усе вершы скіраваныя на суразмову. Яна нікога не выхоўвае, нічому не павучае і не робіць выгляд уладаркі жыццёвае ісціны, без фальшывай сціпласці ведае сабе цану і, не баючыся страціць павагу чытача, можа дазволіць сабе і такія радкі:

**Якую долю сцерагчы!**
**Якую волю піць дасхочу!**
**Сцяжынка месячнай начы --**
**Сумоўца лініі жаночай.**

**Яна праб'ецца напраcткі**
**Пякучай кволасцю раслiннай**
**Туды, дзе, зветрыўшы лісткі,**
**Трымціць імя маё:**
**Галіна.**

**Валянціна АКСАК.**



Падзеяй у культурным жыцці Мінска стаў бенефіс народнага артыста СССР Расціслава Янкоўскага, які адбыўся 5 лютага ў Рускім драматычным тэатры імя Горкага.

За 45 год творчай працы Расціслаў Іванавіч стварыў на сцэне дзесяткі і дзесяткі ролей, сярод якіх і гістарычныя асобы, і нашы сучаснікі. І ў кожнай заваёўваў поспех сваім абаяннем, сцэнічным майстэрствам, глыбінёй пранікнення ў вобраз.

Павіншаваць майстра сабралася амаль уся дынастыя Янкоўскіх. Бенефіс Расціслава Іванавіча стаў прызнаннем яму ў любові тысяч паклоннікаў яго таленту.

НА ЗДЫМКУ: на сцэне -- ЯНКОЎСКІЯ.

Фота Віктара ТАЛОЧКІ.

# КЛІКАЛА РОДНАЯ ЗЯМЛЯ

**Гэтыя пісьмы Міхася Забэйды-Суміцкага прынёс у рэдакцыю паэт Сяргей Грахоўскі. Ён расказаў, што ўпершыню пачуў спевака ў 1963 годзе, калі ён пасля шматгадовай разлукі з Бацькаўшчынай даў некалькі канцэртаў у Мінску і Віцебску.**

**У 1967 годзе паэту надарылася магчымасць паехаць у Чэхаславакію, дзе ў той час жыў Забэйда-Суміцкі, але на сустрэчу з ім ён не спадзяваўся. Тым большай была яго радасць, калі спявак звярнуўся ў Саюз пісьменнікаў і папрасіў, каб Сяргей Іванавіч яму пазваніў. С. Грахоўскага яшчэ на тыдзень пакінулі ў Празе, ён сустрэўся з Міхасём Забэйдам-Суміцкім, і гэты тыдзень на ўсё жыццё застаўся цудоўным успамінам. "Сустрэча наша была выключнай, -- гаворыць Сяргей Іванавіч, -- мы сустракаліся кожны дзень, гутарылі пра ўсё, ён знаёміў мяне з Прагай, мы гулялі ў Рыгровым парку, недалёка ад якога жыў Міхась Іванавіч. Ён праводзіў мяне на вакзал. Быў сумны. Развітваючыся, сказаў: "Як стаю, так і паехаў бы дадому".**

**Але вярнуцца М. Забэйдзе не давялося. Ён заставаўся ў Празе, дзе памёр і пахаваны. Сувязь жа з Сяргеем Грахоўскім, як і з многімі беларускімі пісьменнікамі, дзеячамі культуры, не перарывалася ніколі, жывіла творчасць артыста, дапамагала пераносіць разлуку з Бацькаўшчынай. Пісьмы, якія мы друкуем, толькі нязначная частка багатай эпісталярнай спадчыны Міхася Забэйды-Суміцкага, якая захоўваецца ў беларускіх архівах, ёсць на руках у асобных людзей.**

*5.7.69.*

Дарагі Сяргей Іванавіч!

Ваша мілае пісьмо знайшло мяне ў бальніцы, куды мяне адвезлі з інфарктам. Цяпер ужо ляжу (ці сяджу) удома, але яшчэ не ведаю, чым усё кончыцца. Палыкаю розныя таблеткі. Адчуваю сябе дрэнна. Пішу гэтыя радкі, каб падзякаваць Вам за добрыя словы, за сяброўскія пачуцці. Ці яшчэ спаткаемся, сказаць трудна, хоць вельмі хацелася б. Было б аб чым пагаварыць. Пакуль што трэба легчы, бо баліць бок. Жадаю Вам, каб усе Вашы задумы (планы) здзейсніліся. І ў мяне напланавана 4 канцэрты. Ці змагу яшчэ спяваць? І так лёс да мяне быў вельмі літасцівы. Як-ніяк, ідзе 70, а я ўсё спяваў. Веру, што песня наша і далей будзе гучаць.

Шлю Вам з сям'ёй і ўсім прыхільнікам нашае песні шчырыя, сардэчныя прывітанні і яшчэ дзякую за добрыя словы. Будзьце здаровенькія і жывіце шчасліва.

**Ваш М.ЗАБЭЙДА.**

*22.8.69.*

Даражэнькі Сяргей Іванавіч!

Шчыра дзякую за Ваша мілае пісьмо. Хацелася б і мне напісаць так прыгожа, як гэта зрабілі Вы, пішучы да мяне, але мой свет і мая "сіла" – гэта мелодыя, а яе ў пісьме не перадасі. Затое абяцаю Вам, калі спаткаемся, а цяпер такая надзея ёсць, заспяваць Вам, як гэта было пры нашым першым спатканні. Як бачыце, ізноў я "аптыміст", бо "свет не без добрых людзей". Знайшліся людзі, якія адвезлі мяне ў бальніцу, а калі здароўе маё трохі палепшылася, прывезлі мяне дадому, насілі мне ежу і наогул клапаціліся аба мне. У жыцці стараўся быць карысным людзям, і некаторыя гэта памятаюць.

З Прагі на далячэнне паехаў у Лугачовіцы, дзе прабыў тры тыдні, а пасля там і... выступіў з канцэртам. Трудна верыць, але гэта так. Канцэрт быў замоўлены яшчэ ў мінулым годзе і быў ужэ на плакатах. Не хацелася адказвацца, хоць гэта было і рызыкоўна. Вось бачыце, які я ашчадны да сябе, да свайго сэрца і нерваў. Канцэрт прайшоў з вялікім поспехам. Спяваў цэлых дзве гадзіны. І да кожнае песні мусіў пару слоў сказаць, каб ведалі, што спяваю. А людзі былі розныя, і трэба было да кожнага сэрца знайсці дарожку. Была там і наша калыханка, якая шмат у каго выклікала расу на вачах.

Праўда, сэрца не раз за вечар забалела, але ўсё ж вытрымаў. Гэта была сапраўдная перамога.

На другі дзень быў узнагароджаны медаллю за шматгадовую культурную працу, за мастацкую інтэрпрэтацыю песень розных народаў. "Радасць душу мне шчаміла, быццам сум" (Багдановіч), але "лепш позна, чым ніколі".

Слухачы былі захоплены канцэртам, нават у Прагу пісалі. Гэта заўсёды падтрымвае мастака маральна і дадае ахвоты да далейшай працы. Атрымаў прапанову выступіць у будучым годзе (зразумела, калі буду жыць).

А.Куляшоў на 14 год мяне маладзейшы і, напэўна, мае блізкіх. А я?! "Ні кала, ні двара. Зіпун весь пажытак. Эй, жыві, не тужы! Памрэш -- не ўбытак," -- чытаў калісьці ў школе.

Аб тым, что яшчэ жыву, пісаў Сяргею Панізніку, які прыслаў мне свае вершы. Прасіў яго перадаць усім сардэчнае прывітанне, але пісьмы не заўсёды даходзяць.

Мая апошняя пражская плітка карыстаецца вялікім поспехам, мне пішуць: "Паважаны Майстар!... Слухаем Вашы песні. Захапляючыя! Маглі б іх слухаць цэлы дзень".

Ці слухаюць іх на Радзіме, не ведаю, ніхто нічога не піша.

Пара канчаць. Пабольвае сэрца.

Пайду ў Рыгровы парк, дзе мы хадзілі з Вамі не так даўно, але як змянілася ад таго часу жыццё. "У галаве" прадоўжу там з Вамі размову.

Бывайце здаровы. Прывітанні. Абдымаю.

**Ваш Міхась З.**

*19/4-70*

Дарагі Сяргей Іванавіч!

Углядаюся на дату Вашага апошняга ліста (12/3) і бачу, што мы пісалі з Вамі адзін другому ў той самы дзень. Цікава!

За Вашы добрыя словы шчыра дзякую. Ды з унукам Андрэем Вас віншую. Магчыма, і пра яго пазней напішаце: "Для песень народжаны". У кожным выпадку вельмі гэтага хацеў бы. Шкада, што далекавата, рады перадаць бы яму свой вопыт.

"Полымя" атрымаў. Вершы Вашы прачытаў з асалодаю. Многа думак, прыгожая родная мова. "Мяне, як на прадвесні жураўля, дадому кліча родная зямля... хоць там няма ні дому, ні радні..."

Гэта мне вельмі блізка, як радкі: "Бо на зямлі, куды ні глянеш -- страты..."Сумна і больна!..

На гэтым учора перастаў пісаць, бо маё "ретивое" пачало мне перашкаджаць. Сёння прадоўжу, але не шмат, бо майму настрою больш адпавядае фраза з Вашага пісьма: "Так было б добра пасядзець з Вамі, пагаварыць, паслухаць песні, памаўчаць".

Здароўе маё моцна мяне абмяжоўвае ва ўсім. Але лепшым яно ўжо не будзе. І так дзіўлюся, што дацягваю да 70! Ды да гэтага яшчэ спяваю. Напланавана 7 канцэртаў, а сілы малавата. Рыгору Раманавічу лягчэй: не меў інфарктаў, мае кватэру, ды ён не адзін. Затое я магу заспяваць песеньку: "Ни кола, ни двора. Зипун -- весь пожиток. Эй, живи, не тужи! Умрешь -- не убыток". Але пакуль што пра гэта не думаю, а рыхтуюся да выступленняў. Першы канцэрт мае быць 30 г/м. у Есеніку. Там вельмі прыгожа, толькі даезд трудны. Некалькі гадзін аўтобусам, што ўтамляе, ды там яшчэ і значна халадней, чым у Празе. А холаду мы мелі ў гэтым годзе больш, чым трэба. Праўда, і хараства было многа. Рыгровы сад, дзе Вы мяне фатаграфавалі, быў зімою сапраўднай казкай. Кожны раз, калі туды хадзіў, шкадаваў, што Вы яго не бачыце. Напэўна, натхніў бы Вас на прыгожы верш. А колькі радасці мелі дзеці! Нават даспелыя людзі ездзілі на лыжах.

Ад масы снегу паламалася шмат дзераваў. (Так у жыцці бывае: "Кошке игрушки, а мышке слезки").

Цяпер ужо каштаны запалілі свае свечкі, хоць усё яшчэ холадна. Прыляцела пара маіх шпачкоў. (Вось і я ўжэ не адзін!).

Канчаю, бо зноў пабольвае сэрца. Бывайце здаровенькі, дарагі Сяргей Іванавіч. "Няхай Вам добра жывецца" і многа і добра пішацца. На забывайце! Моцна Вас абдымаю!

**Шчыра Ваш М.ЗАБЭЙДА.**

**(Працяг будзе).**

Ёсць у Оршы незвычайны музей, дзе сабраны работы аднаго майстра -- рэзчыка па дрэву Сямёна Шаўрова. Востры позірк, прыродны талент і вялікая працавітасць зрабілі Сямёна Шаўрова самабытным мастаком. Ён бачыць і ведае, што можна стварыць з кожнага кавалачка дрэва. Неабходна толькі з любоўю паставіцца да яго, дакрануцца да яго ўмелымі рукамі -- і дрэва ажыве: усміхнецца ці засумуе, заспявае ці затанцуе створаны мастаком вобраз.

Менавіта такія работы і сабраны ў музеі драўлянай скульптуры рэзчыка Шаўрова.

НА ЗДЫМКАХ: мастак Сямён ШАЎРОЎ; работа майстра "Разведчык".

Фота Аляксандра ХІТРОВА.





АБ ІМ ВЕДАЮЦЬ У СВЕЦЕ

# АДГУКНЕЦЦА СЭРЦА ДАБРЫНЁЮ

З Аляксандрам Курсковым я знаёмы даўно. І колькі яго памятаю, ні разу не прыходзілася чуць ад яго скаргі на сваё жыццё. А яно ж, калі разабрацца, не было спакойным і бязвоблачным. Хаця кар'ера вучонага-біёлага напачатку складвалася для Аляксандра Мікітавіча даволі ўдала.

Скончыў Маскоўскі пушніна-футравы інстытут, атрымаў накіраванне ў Сібір, пасля на Украіну. Тут стаў сведкам стварэння штучнага Кахоўскага мора.

-- Я не эканаміст. Магчыма яно і патрэбна было для нечага, -- каменціруе гэту падзею Аляксандр Мікітавіч, -- але якой цаной давялося заплаціць за ўсё. Ніколі не забуду затопленыя вёскі, якія тэрмінова перасялялі насуперак волі жыхароў у іншыя месцы, лясныя масівы, што гінулі ад вады, і тых звяроў, якіх мы, вучоныя, ратавалі, як той някрасаўскі дзед Мазай.

Надарыўся выпадак паехаць у Беларусь у Інстытут заалогіі Акадэміі навук. Вырашыў прысвяціць сябе навуковай працы.

-- Але, -- падкрэслівае Аляксандр Курскоў, -- не кабінетнаму сядзенню. Таму і парасіўся бліжэй да прыроды, атрымаў пасаду намесніка дырэктара па навуковай працы запаведніка "Белавежская пушча". Стаў вывучаць жыццё зуброў, дзікоў, ласёў, аленяў, якіх тут у пяцідзесятыя гады было вельмі многа.

Вынікам тых гадоў сталі напісаныя біёлагам кнігі: "Па запаведных мясцінах", "Ляснымі сцежкамі", "Тайны беларускага лесу" і іншыя. Яго навуковыя і папулярныя артыкулы сталі часта з'яўляцца ў перыядычным друку. Чытачы газеты "Голас Радзімы" таксама ўжо на працягу дваццаці гадоў маюць магчымасць знаёміцца з цікавымі публікацыямі Аляксандра Курскова.

Да яго прыйшла вядомасць, з ім сталі лічыцца навукоўцы многіх рэспублік былога Саюза. І раптам, як трапна тады адзначалі калегі, Курскоў задзівачыў.

Усё пачалося з цёхага летняга вечара. Зачасціў на веранду "вучэбкі" кажан. Палятае, палятае, розных насякомых паловіць і завітае пад навес будынка павячэраць, амаль не звяртаючы ўвагі на людзей.

І тут Аляксандру Мікітавічу захацелася вывучыць жыццё гэтых цікавых звяркоў. Тым больш, што імі практычна ніхто ў свеце сур'ёзна не займаўся.

Праз нейкі час у вучонага накапіўся багаты матэрыял.

Запрасілі Аляксандра Курскова на семінар-сімпозіум вучоных Прыбалтыйскай зоны.

-- Мне б, -- кажа біёлаг, -- пра ласёў ды зуброў павесці гаворку, а я ўсю ўвагу шаноўнай аўдыторыі скіраваў на лятучых мышэй. Гэты факт не застаўся незаўважаным. У газеце "Известия" з'явіўся крытычны матэрыял, у якім абвінавачвалі мяне, што займаюся Бог ведае чым. Трэба клапаціцца аб павелічэнні колькасці буйной дзічыны ў лясах, каб задаволіць попыт насельніцтва ў мясе, а не агітаваць вучоных вывучаць нейкіх там кажаноў, ад якіх ніякай карысці.

Усё, як кажуць, развальвалася: засталася неабароненай кандыдацкая дысертацыя, з'явілася спроба зверху "падправіць" і "ўказаць" аблуднаму калегу. Іншы на яго месцы разгубіўся б, вярнуўся да старых доследаў. Але Аляксандр Курскоў працягваў вывучаць лятучых мышэй. І вось на стол паважаным вучоным леглі яго першыя даследаванні: кажаны знішчаюць больш за дзевяноста відаў насякомых -- шкоднікаў садоў, лясоў, палёў. Карысці рукакрылыя прыносяць значна больш, чым некаторыя птушкі.

Прайшлі гады, шмат што змянілася. Абараніў дысертацыю Аляксандр Мікітавіч, стала ледзь не бестселерам яго кніжка "Жывыя радары". Па вывучэнню жыцця лятучых мышэй Аляксандр Курскоў па сённяшні дзень займае адно з вядучых месцаў у свеце. Ці не таму яго працы цытуюць, да яго звяртаюцца за дапамогай, калі ёсць неабходнасць нешта высвятліць, удакладніць. Пісьмы прыходзяць амаль з усіх кантынентаў.

Вось адно з іх, ад нямецкага вучонага Густава Кірка. Ён паведамляе, што выслаў кнігу "Жывыя радары" прынцу Іаханесу Вадуцу з княства Ліхтэнштэйн па яго просьбе, таму што кніга "дае выдатныя чарцяжы дуплянак для лятучых мышэй".

Апошняя навіна. Міжнародны цэнтр па вывучэнню і ахове лятучых мышэй прыняў рашэнне стварыць банк даных па фауне. Мэта яго -- каардынацыя даследаванняў рукакрылых у аб'ёме ўсёй планеты. І, што прыемна, у спецыяльны даведнік вядучых вучоных па вывучэнню кажаноў уключаны і беларускі вучоны кандыдат біялагічных навук Аляксандр Курскоў.



Нядаўна яму споўнілася семдзесят гадоў. Ім напісана больш за пяцьсот навуковых работ, васемнаццаць кніг. Здавалася б, час і спакойна пажыць. Дык не! Што ні дзень, то клопат. То ён піша цікавы артыкул для перыядычнага выдання, то чытае лекцыі, то здзяйсняе паездкі з хорам ветэранаў, у якім спявае, па краінах блізкага і далёкага замежжа.

Але асабліва шмат часу аддае Аляксандр Мікітавіч дзецям. Вось ужо на працягу дваццаці гадоў займаецца з гурткамі біёлагаў пры Рэспубліканскай станцыі юных натуралістаў. Займаецца, заўважым, бясплатна.

-- Ведаю, -- кажа Аляксандр Мікітавіч, -- не кожны з гуртоўцаў стане вучоным. Наша задача, людзей старэйшага пакалення, выхоўваць у дзецях дабрыню, каб не ачарсцвела і не агрубела іх сэрца да ўсяго таго, што акружае нас, каб не паднялася рука пакрыўдзіць і бязабаронага сабаку на двары, і даверлівую вавёрку ў лесе.

Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.

НА ЗДЫМКУ: Аляксандр КУРСКОЎ.

Фота Віктара СТАВЕРА.

СПОРТ

## НІХТО НЕ ХОЧА РЫЗЫКАВАЦЬ

У індыйскім горадзе Сангінагары пачаліся паўфінальныя матчы прэтэндэнтаў першынства свету па шахматах. Сустракаюцца пары: А.Карпаў (Расія) -- Б.Гельфанд (Беларусь) і Г.Камскі (ЗША) -- В.Салаў (Іспанія). Адразу падкрэслім, што ўсе спартсмены -- выхадцы з былога Саюза.

Для таго каб выйсці ў фінал, трэба набраць 5,5 ачка. Першыя партыі не далі перавагі нікому з сапернікаў.

Удзельнікі паўфінальных матчаў дамовіліся, што пасля гэтых сустрэч зробяць заяву наконт далейшага розыгрышу за званне чэмпіёна свету.

## ВЕДАЙ НАШЫХ

"Спартыўная Еўропа здзіўлена...", "Такога ніхто не чакаў...". Гэтыя радкі ўзяты з газетных рэпартажаў аб чэмпіянаце кантынента па біятлону, што завяршыўся ў Францыі. І адносяцца яны да беларускіх спартсменаў, якія выступілі тут надзвычай удала: 4 залатыя, 2 сярэбраныя і адзін бронзавы медаль.

Найбольшую колькасць узнагарод заваявалі Ігар Хахракоў, Аляксандр Папоў, Святлана Парамыгіна, Алег Рыжанкоў і іншыя, ужо вядомыя за межамі рэспублікі біятланісты Беларусі.

## ГЭТЫ НЕПРАДКАЗАЛЬНЫ МАЛАФЕЕЎ

Сапраўды непрадказальныя крокі можа рабіць добра вядомы некалі футбаліст, ігрок зборнай СССР і мінскага "Дынама" Эдуард Малафееў: то ён узначаліць каманду краіны (былога Саюза, Беларусі), то клуб вышэйшай лігі, то раптам "згубіцца" недзе ў далёкай глыбінцы. Як, скажам, было, калі Эдуард Малафееў раптам пакінуў Мінск і паехаў у Цюмень.

А сёлета ён ізноў здзівіў усіх: згадзіўся ўзначаліць мінскую "Змену", калектыў, які выступае толькі ў трэцяй лізе першынства Беларусі. Чаму?..

На гэта пытанне ніхто не можа адказаць. Хаця ёсць адно меркаванне: хто плаціць... Нічога не зробіш, такі наш час.

## "СПАДАРОЖНІКУ" СПАДАРОЖНІЧАЕ ПОСПЕХ

У Даўгаўпілсе завяршыўся трэці, заключны тур розыгрышу Кубка Балтыйскай лігі па валейболу. Ніхто ў гэтых спаборніцтвах не змог скласці канкурэнцыю віцебскаму "Спадарожніку". Нашы землякі з вялікім адрывам фінішавалі, не пакінуўшы ніякіх шанцаў сапернікам з Вільнюса і Мінска. Віцябляне за перамогу ўзнагароджаны медалямі і атрымалі ганаровы хрустальны прыз.

## БУДУЦЬ І ПЕРАМОГІ

На чэмпіянаце Еўропы па фігурнаму катанню беларуская танцавальная пара Таццяна Наўка -- Самвел Гезалян заняла чацвёртае месца. Ад "бронзы" іх аддзяліла мізэрная сума балаў. Але, калі ўлічваць узрост нашых спартсменаў, галоўныя поспехі ў беларускага дуэта наперадзе.


Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").





НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак.25. Падпісана да друку 13. 2.1995 г.